паладзіць з бальшавікамі. Бацька во не паладзіў, за тое мне і расплата... — Кажухар стогне і круціцца, вочы зусім змакрэлі, і ён ужо не саромеецца той макраты, не выцірае іх.

Дзед быццам бы і не прыкмячае таго, не слухае Кажухара, сядзіць, унурыўшыся нерухомым позіркам у дол...

А Кажухар працягвае:

— Божа міласэрны, Маці Царыца Нябесная, не пакінь нас, не адвярніся хоць у гэты астатні час...

— Успомніў! — зноў зласнавата буркнуў Дзед. — Як прыпячэ, тады ўспамінаем. Раней помніць трэба было!

— Ды я ці калі забываўся! Я заўжды помніў, маліўся...

— А цяпер маліся, не маліся — адзін канец!

— Ай, божачка ты мой, божачка!

— Слухай, перастань ты выць! — ужо мякчэй кажа Дзед. — У мяне самога душа баліць... У цябе хоць ёсць каму ўспомніць, во сын твой хаця б. А ў мяне... Дзяцей Бог не даў, а жонка... Пабіў я яе, як раз перад паўстаннем. Не сказаць, штоб без прычыны... была прычына... Яна баба жаласлівая, заўжды каго-небудзь шкадавала — то дзяцей, то суседак, а асабліва каго з радні. Хто бяднейшы. А бяднейшы з усіх у яе малодшы брат Сёмка, дзяцей куча! А сам негаспадарлівы, заўжды з Вялікадня сядзіць без кавалка хлеба. У мяне ў свіронку была прыхавана тарбінка грэчкі, хацеў па вясне засеяць лапік ля сажалкі — не ўсё ж душыцца бульбай ды крупнікам. Але во жонка, як мяне не было дома, добра-такі адсыпала з тае тарбіны брату — бач, згаладнелі дзеці. Згаладнеюць, вядома, бо трэба працаваць, дбаць пра дзяцей ды гаспадарку, а не лайдачыць паўгода на печы! І вось аддала пуд грэчкі, быццам самой непатрэбна. Ну вось я і даў ёй добрага штурхаля! Яна ўпала, загаласіла на ўсю вёску!.. А тут якраз трэба было збірацца ў полк на фарміроўку. Ну, я ўзяў сякі-ткі харч ды так і пайшоў улегцы. Ну, трэба было? Гары яна гарам, тая грэчка!.. Калі б не такі канец, можа б, яшчэ і павініўся і паладзіў з жонкай... Увогуле, яна ў мяне не злапомная, даравала living рознае, не першы раз. Але ўжо не павінішся — усё панясеш з сабой. На той свет. І ўсё праз гэтае наша жыццё, спрадвечную галоту! Ні па-людску жыць, і нават не па-людску памерці...

Яны абодва змоўклі...

Камандзір зірнуў у яму...

Відаць, што Валодзька прытаміўся, рыдлёўка ледзь-ледзь трымаецца ў руках...

Камандзір заве:

— Забела! Давай падмяні.

Забела з яўнаю неахвотай лезе ў яму, бярэ ў Валодзькі рыдлёўку і пачынае без усякага запалу капаць...

Валодзька выбіраецца з ямы, адыходзіць убок і садзіцца на імшанік...

Сарок на дрэвах прыбавілася. Яны сакочуць усё болей, бы прадчуваючы тое страшнае, што тут неўзабаве адбудзецца. Іх ужо ніхто не адганяе...

Да Камандзіра падсаджваецца Казак:

— Вось усе начальнікі казалі, і ты таксама, што да зімы мы пераможам, вернемся дадому, падзелім панскую зямлю і зажывем па-людску, па справядлівасці ды ў згодзе — хто б не хацеў. Я б не супраць. Абы ўдалося. На жаль, не ўдалося! Не толькі сваёю сямейкай, але і наогул жыць... Ды што ж... Я не разумнейшы за іншых і, канешне, не шчаслівейшы. Калі вось ты, Камандзір, кажаш, што іначай нельга, значыцца, і праўда, нельга. Значыць, нявыкрутка атрымалася. Прыйдзецца паміраць... Але як усе, так і Казак... Вось толькі б паесці чаго-небудзь. Перад смерцю...

Камандзір здзіўлена зірнуў на Казака:

— Паесці?.. — і раптам ён зарагатаў: — Паесці!...

Казак спачатку збянтэжана глядзіць на яго, а потым таксама зарагатаў разам з Камандзірам...

Камандзір гаворыць скрозь смех:

— Паесці!.. Слуцкую турму памятаеш? Чрэзвычайку?

Казак у адказ матае галавой...

З размытага малюнка ўзнікае цёмны падвал...

Дзверы рэзка расчыняюцца, і ў іх моцна штурханулі нейкага чалавека, адзетага ў афіцэрскі шынель са зрэзанымі гузікамі і хлясцікам, босага. Спатыкнуўшыся, чалавек паваліўся на нечыя целы. Нехта пад ім злосна, па-блатняцку, вылаяўся.

— Прабачце, — выціснуў з сябе чалавек у шынялі. Ён неяк узгрэбся на босыя ногі, не ведаючы, куды ступіць ад дзвярэй. Ля яго ног варушыцца чалавек, нешта бурчыць.

— Ні чорта не бачу... — кажа чалавек у шынялі, і цяпер мы пазнаём яго. Гэта Камандзір.

— І не ўбачыш. Мы тут, бы краты, — адказаў яму нехта глухім шапялявым голасам.

— Вайскоўцы ёсць?

— Наўрад. Будзеш першым, — кажа той жа голас.

— І, можа, апошні, — буркнуў той, з-пад ягоных ног. Гэта Блатняк

— Хай так, — болей бадзёра сказаў Камандзір і апусціўся там, дзе стаяў, — плячамі да самых дзвярэй.

Ягонае з'яўленне ў гэтай цеснай, падобнай на катух камеры, відаць, кагось зацікавіла:

— Адкуль будзеце? — зважліва папытаўся, мяркуючы па ціхманым голасе, немалады чалавек, што мясціўся недзе ў куце.

— З вакзала, — проста адказаў Камандзір.

— Го, з вакзала! — нядобразычліва адазваўся Блатняк. — На вакзале яны і бяруць!

— Чакаў цягніка... — працягвае Камандзір.

— Ну і дурань! Чакаць на вакзале... Ля семафора трэба чакаць і на хаду садзіцца. Цяпер так робяць.

— Наўрад ці ў іх ёсць якая заканамернасць, яны ўсюды бяруць! Мяне, напрыклад, узялі дома. З пасцелі паднялі, — сказаў з кутка Пажылы.

— Яны і з магілы паднімуць, — прашапялявіў недалёкі сусед. — Чэка!

— Чэка! Гэта табе не царская паліцыя, што спала на хаду, — сказаў Блатняк. У яго голасе разам з бояззю чулася стоеная павага да ЧК.

— Ну, не заўжды спала. Бывала, давала і яна дыхту. Асабліва на катарзе, — кажа Шапялявы.

— Хіба што на катарзе... — згаджаецца Блатняк.

— Такога яшчэ не было ў Расеі! — пакутна загаварыў у куце Пажылы. — Былі смутныя часы, бязладдзе. Але такога ачмурэння не было! Бедная, няшчасная Расея...

— Рэвалюцыя, што ж вы хочаце? — даволі бадзёра шапялявіць іншы. — Рэвалюцыя без ахвяр не бывае.

— Пайшла яна на хер, твая рэвалюцыя! — рэзка кінуў у адказ Блатняк. — Ад яе адзін сіфіліс, ад вашай рэвалюцыі!

Шапялявы:

— Не скажы! Калі ёю правільна распарадзіцца...

Блатняк:

— Хто, хто правільна распарадзіцца?.. Троцкі?.. Ленін?..

Шапялявы:

— Ат, што ты разумееш?..

У камеры наступае цішыня...

Камандзір, абапершыся плячамі да сцяны, моўчкі слухае гэту спрэчку, нарэшце пытаецца:

— Даўно вы тут?

— Як хто, — адказвае Пажылы ў куце. — Я чацвёрты дзень. Ён во — два, іншыя — хто колькі.

— Тут доўга не трымаюць! — са значэннем сказаў Блатняк.

— Што — адпраўляюць? А куды? — пытаецца Камандзір.

— Гэ — куды? Вядома, куды!.. У Гунькін роў! — адказвае Блатняк.

— Толькі ж, мабыць, павінны хоць дапрасіць, вынесці нейкі прысуд, хай сабе і фармальны, — сказаў Камандзір.

— Які прысуд? Які прысуд? — гаворыць Шапялявы. — Цяпер могуць і без усякага прысуду, у імя рэвалюцыі!

Камандзір трохі памаўчаў... Потым кажа, як быццам сам сабе:

— Вось... прыехаў! А адсюль да маёй станцыі шэсцьдзясят вёрст...

Пасля нядоўгага маўчання са змроку зноў пачуўся ўпэўнены шапялявы голас:

— А што ж вы хацелі, грамадзяне? Пралетарыят абараняе сваю ўладу. А кожная ўлада павінна ўмець сябе абараніць!

— Яно, можа, і так, — не адразу, мякка пагадзіўся Пажылы ў куце. — Тое вядома з часоў Французскай рэвалюцыі. Толькі вы мне скажыце, чаму гэткая неадэкватная абарона? Напрыклад, я не выступаў супраць іхняй улады. Я нейтральны чалавек, абывацель.

— Вы не абывацель! — запярэчыў Шапялявы. — Вы прадстаўнік чужога варожага класа!

— Ну, добра, я — чужы клас! — памяркоўна сказаў Пажылы. — Вы ж, пэўна, не чужой клясы чалавек?

— Затое, я чужой партыі! — адказвае Шапялявы.

Пажылы:

— Але ж таксама сацыялісты?

Шапялявы:

— Сацыяліст-рэвалюцыянер! Заўважце розніцу!

Пажылы:

— Невялікая, аднак, розніца, як я разумею. І тыя, і другія супраць манархіі.

Шапялявы:

— У тэарэтычным сэнсе так. Але ў тактычным — мы як неба і зямля! Мы, эсэры, нязгодны з бальшавікамі.

Пажылы ўсміхаецца:

— Даволі сумніцельна...

Камандзір некаторы час прыслухоўваецца да іх размовы, потым пытаецца:

— А за што вас, прабачце, сюды?

Шапялявы:

— А ні за што! Выйшла непаразуменне...

— Гэ, непаразуменне! — нервова заварушыўся ля ног Камандзіра Блатняк. — У іх непаразуменняў не бывае. Ім трэба як мага больш шлёпнуць!

— Шлёпнуць, гэта, канешне, — пагадзіўся Шапялявы. — Можа, толькі спярша пакормяць. Павінны ж яны карміць!

Блатняк:
— Не кормяць і не страляюць! Чакаюць, калі самі ногі выцягнем!
Шапялявы:
— Такога царскія сатрапы не дапускалі! Я катаргу прайшоў, ведаю.
— Не кормяць, значыць, трэба думаць, не зацікаўлены ў нашым жыцці! Усё надта лагічна, — уздыхнуў Пажылы.
— У іх там няпраўка выйшла — аўтамабіль сапсаваўся, — зазначыў Блатняк. — Як адрамантуюць, напэўна, адразу... У Гунькін роў...
Тым часам недзе недалёка ў калідоры пачуліся галасы: «Выходзь! Быстра, тваю маць!..» І брыдкая салдацкая лаянка... Падобна, там усчалася тузаніна ці нават бойка... Чуецца тупат шматлікіх ног... Нешта моцна выцяла ў сцяну — аж здрыгануліся прыхінутыя да дзвярэй плечы Камандзіра... Усе насцярожана прымоўклі, чакаюць...
Потым тупат і тузаніна сталі чуваць далей...
— Цяпер ці не наша чарга... — паныла сказаў Шапялявы.
Яму ніхто не адказаў, усе маўчаць...
Пасля маркотнае паўзы першы загаманіў Блатняк:
— А я, якраз перад тым... Ну, у ранку, як сцапалі, не даеў гуляш... — паведаміў ён, як пра нешта важнае. — Такі быў смачны гуляш!.. Вялікая талерка... А я не даеў, дурань!
— А я дык галадаў болей! Каб што не даесці, такога не памятаю... Асабліва хлеб... Найлепшы прысмак! — сказаў Шапялявы.
— Ды і сухар няблага! Калі з квартай кіпятню... Ахвіцэр, у цябе там сухарыка не заваялася? — павярнуўся да Камандзіра Блатняк.
Камандзір усміхнуўся:
— Не заваялася...
— Трэба было даваць дзёру, я ж казаў! — сцішана буркнуў Блатняк, звяртаючыся да іншых. — А то давядуць, што ног не пацягнеш!.. Калі да таго не стрэльнуць...
— Я не супраць, — адгукнуўся Шапялявы.
З кутка разважна азваўся Пажылы:
— Вы думаеце, гэта магчыма? Гэта ж вельмі рызыкоўна, мабыць...
Яму ніхто не адказаў... Зноў наступіла цішыня...
— А што? Як адчыняць дзверы... Каго прывядуць... — кажа са змроку Шапялявы. — Кінуцца і — за вінтоўку! А тут астатнія...
— Хто кінецца? Я чалавек пажылы... Ды суставы хворыя, — сказаў Пажылы.

— Я б сам кінуўся, — кажа Шапялявы, — ды у мяне рука вывіхнутая. Як вялі, дык білі, сапсавалі руку. Бо ўсё роўна — у расход!.. Чуе мая душа — не даюць есці, значыць — прыгавор!

Камандзір маўчыць. Ён нешта ўзгадняе ў сабе — прымае рашэнне...

— Дык вось жа ў нас, вайсковец! — падказвае Блатняк. — Ты ж вайсковец, ага? — звярнуўся ён да Камандзіра.

— Вайсковец...

— Ахвіцэр?

— Афіцэр...

— Дык чаго чакаць? Самы раз будзе! Я ў помач! — кажа Блатняк.

— Ага, тут трэба, каб усе разам! — па-змоўніцку, ціха, прашамкаў Шапялявы. — Ламануць — і ў калідор! А там — каму пашанцуе...

— Калі б паспець... А то могуць на золаку вывесці. Яны заўсёды на золаку возяць! — паведамляе Блатняк.

Камандзір моўчкі думае... Нарэшце кажа:

— Я зразумеў... Але ці ўсе згодны?

— Я згодны! — лёгка сказаў Блатняк.

— Я тожа, — пацвердзіў Шапялявы.

У куце, чутна было, трохі паўздыхаў Пажылы.

— Што ж, калі ўсе парашылі, дык... Адмаўляцца не пахрысціянску будзе. Ужо як-небудзь...

— Во і добра!.. А ты, маўчун, што? — звяртаецца Шапялявы да кагосьці ў цемры. — Ці ўсё спіш?

— Я не сплю, — прагучаў з цемры незнаёмы басавіты голас.

— Дык ты чуў? Ты згодны? — пытаецца Шапялявы.

— Ды я вось... Бегчы я не магу, во якая справа... — чуецца з цемры.

— Тады што ж — застанешся? — пытаецца Шапялявы.

— Мабыць, застануся... — голас з цемры.

Ноч тым часам, мабыць, пераваліла за поўнач, у сутарэнні памалу рабілася цішэй, галасы за сцяной і ў калідоры патроху глухлі... Стала ціха...

— Галоўнае — не кормяць! — сказаў Шапялявы. — Значыць, штосьці ўдумалі.

— А што — тут і дурню вядома! — пагадзіўся Блатняк.

— А калі ў іх усё ж які іншы план? — усумніўся Пажылы. — Калі, напрыклад, сапсаваўся аўтамабіль, дык, мабыць жа, няма і падвозу?

Шапялявы:

— Няма падвозу, дык на плячах прынеслі б. У мяшках. Хлеба ці бульбы. А калі тры дні не нясуць, значыць...

— Значыць — Гунькін роў! — перабівае яго Блатняк.

Камандзір моўчкі слухае... Потым пачынае расціраць схаладзеўшыя босыя ногі...

Блатняк паглядзеў на камандзіра, потым звяртаецца ў цемру:

— Ты, калі не пабяжыш, аддай боты ахвіцэру! Ён босы!

— Дык бярыце, — проста пагадзіўся Казак. Трохі пасапеўшы, ён здзёр з ног боты, перадае іх Блатняку. Той, у сваю чаргу, перадае боты Камандзіру.

— Во, абувайце!

— Ну, дзякуй, — кажа Камандзір. Боты вялікія, растаптаныя, і ён лёгка насунуў іх на свае босыя ногі.

— Цяпер такая справа, — развaжна прамовіў у куце Пажылы. — Можа, каму і пашанцуе, дык гэта... Каб ведалі... Вучыцель я, з Будзевіч. Сергіеня маё прозвішча, пяцьдзясят пяць гадоў маю. У мяне адзін сын на румынскім фронце. Быў... А другі паў пад Смаргонню... А я вось тут...

— А цябе могуць шлёпнуць! Калі не драпанеш! — грубавата зазначыў Блатняк.

— Ну, даволі! А то запалохаў усіх! — глуха абарваў яго Пажылы.

— А што ж, плакаць мне, ці што? На плач яны не зважаюць. Хай па мне плачуць! У Воршы — Любка, у Суражы — Анастасся, а ў Піцеры — Лушка. Лушка асабліва сардэчная была, любіла ў любоў гуляць!

— Мабыць, адлюбілася! — кажа Шапялявы.

— А гэта мы яшчэ пабачым! — падбадзёрвае сябе Блатняк. — Я хлопец спрытны! І не глядзі, што мізэрны!

— А родам — адкуль? — спытаўся Шапялявы.

— Тутэйшы... З Магілёўскай губерні...

— І я з Магілёўскай! Горад такі — Горкі, можа чуў? На каморніка вучыўся. А дома ўжо нікога... Быў брат, ды прапаў на вайне недзе... Вось і ўся біяграфія!

— А казаў — катаржнік? — напомніў Блатняк.

— А як жа! Катаржнік! Пяць гадоў адтрубіў. Рэвалюцыя вызваліла!

— Хар-р-р-ошая рэвалюцыя! — з’едліва зазначыў Блатняк.

З кута загаварыў Пажылы:

— Рэвалюцыя, кажаце, вызваліла і рэвалюцыя ж, мабыць, пасадзіла? Як жа так атрымліваецца, спадар-таварыш сацыяліст?

— Вельмі проста. Справа ў тым, што рэвалюцыя павінна чымсь харчавацца. Дужа пражорлівая жывёліна! Чым больш жрэ, тым болей ёй хочацца! — прашамкаў Шапялявы.

— Во дзіва! — роздумна сказаў Блатняк. А казалі — свабода, свабода!..

— Тут во якая справа, — зазначыў Пажылы. — Гледзячы каму — свабода! Хіба — абстрактная свабода, свабода наогул. Народу ж яна зусім без патрэбы. Падобна на тое, народ не ведае, што з ёй рабіць, бо ён ніколі з ёй справы не меў. Усё ж народу трэба, каб над ім валадарылі. Найлепш — чужаземцы! Прыйдзіце і валадарце намі, бо зямля наша вялікая, а парадку ў ёй няма!..

— Ну, гэта вы дарма! — сказаў Шапялявы. — За свабоду народа сотні сацыялістаў на катарзе гнілі.

Пажылы:

— Але хіба за народ? Можа, за ідэю. А гэта не адно і тое ж! Народ яшчэ не даспеў да гэткай ідэі, як свабода і дэмакратыя. Яму яшчэ бізун самы раз будзе.

Шапялявы:

— Ну вы і рэакцыянер! Манархіст, мабыць?

Пажылы:

— Хай сабе і манархіст. Але вы азірніцеся, што робіць той самы народ. Вунь, у нас, у Будзевічах. Жыў такі пан, Красоўскі, небагаты, шляхетнага роду пан. Палац каменны тры стагоддзі стаяў ля ракі. Дык гэтыя, з Будзевіч, свае ж, сяляне, прыйшлі, пачалі цягнуць, рабаваць. Віна знайшлі, напіліся, запалілі стайню. Стары Красоўскі кажа: што ж вы робіце, як вам не сорамна. А яны: дык ці ж гэта мы пачалі? Гэта ж такі закон у Піцеры выйшаў — свабода! Расея гіне, трэба хапаць, пакуль іншыя не расхапалі! Пакуль свабода! І разрабавалі, і папалілі — і палац, і службы! А старога Красоўскага святар ледзьве ўратаваў ад п'яных!.. А вы кажаце — свабода! Паглядзіце, хто нас сюды папрыводзіў, хто страляць будзе. Хіба то не людзі з народа? А тыя, што ў ЧК сядзяць, хіба не за народ? Хоць бы на словах.

— Во, менавіта на словах! — загарачыўся Шапялявы. — А па сутнасці — гэта шкурнікі! Прыстасаванцы да святой ідэі ўсе гэтыя бальшавікі, чэкісты...

— Якая ідэя, такія і да яе прыстасаванцы! — упарта пярэчыў у куце Пажылы. — Калі ідэя дазваляе гэтак да яе прыстасоўвацца, значыць, дэфектная ідэя!

Шапялявы:

— Ну, пра ідэю так не кажыце! Ідэя роўнасці і брацтва — святая ідэя! З часоў Французскай рэвалюцыі!

— Святая, святая, — няпэўна кажа Пажылы. — Пад гэтую ідэю столькі ўжо крыві пралілося, а ў свеце таго брацтва ні на алтын не прыбавілася! І, мусіць, не прыбавіцца... Адно жаданне — адабраць і падзяліць, тая ж барацьба класаў і саслоўяў!

Шапялявы:

— Мэта нашай рэвалюцыі — з гэтым пакончыць! Раз і навек!

— Э, не, браценька! Як бы ні стала так, што рэвалюцыя — толькі пачатак! Працяг яшчэ будзе... — кажа Пажылы.

Шапялявы:

— Пачатак, можа, і не надта... Затое працяг павінны быць, што трэба!

— Які пачатак, такі і працяг... — адказвае яму Пажылы.

Камандзір усё гэтак жа моўчкі слухае размову, але відаць, што думкі ў яго нейкія свае...

— А вы, афіцэр, скуль будзеце? — запытаўся Пажылы. — Ці са сталіц?

— Не, не са сталіц... З-пад Полацка...

— З фальваркоўцаў?

— З дваран, — падумаўшы, адказвае камандзір.

— Ну, дваране, і яны розныя бываюць, — зазначыў Блатняк. — Ёсць і нішто...

— Яны, можа, і нішто! — запярэчыў Шапялявы. — Але як клас — варожыя рэвалюцыі! Контра!

У куце заварушыўся Пажылы:

— Ну вось, вы ўсё вялікімі катэгорыямі: клас, народ! Гэта палітыкі ды царадворцы маюць у жыцці справу з класамі ды народамі, а мы, абывацелі, болей то з суседам, то з работнікам, то з гандляром. І кожны з іх, паасобку, не падобны да іншага. Як можна так абагульняць? Схаластыка!

— Не класавы ў вас падыход! — без злосці сказаў Шапялявы.

— Не класавы, праўда. Боскі!.. Усё ж Бог стварыў чалавека па сваім падабенстве. Гэта д’ябал падзяліў чалавецтва на класы, саслоўі, на паноў ды нявольнікаў! — кажа Пажылы.

— Каб зручней было ўпраўляць! Каб адно адным паганялі! — як заўжды з’едліва, сказаў Блатняк і папытаўся з выклікам: — Праўда, Маўчун?

— Можа, і праўда... — прагучала з цемры. Голас быў густы і ціхманы, падобна, крануты нутраным надломам спакутаванага чалавека.

Блатняк:

— А цябе завошта сюды, калі не сакрэт?

— За цара, — ціха адказаў Казак.

Блатняк:

— Што ты — ягоная радня якая?

Казак:

— Не, не радня... Ва ўправе служыў... Вартаўніком... А яны прыйшлі партрэт скідваць... Дык гэта... Я ўзяў тапор...

Блатняк:

— І пасек іх?

— Не-а... Аднаго толькі... Галоўнага...

— Да-а... — кажа Шапялявы. — Кепскія твае справы!

— Кепскія, ага, — паныла пагадзіўся Казак.

Начная цішыня ў сутарэнні зноў парушылася нейкімі невыразнымі галасамі ў тым канцы калідора, пачулася лаянка, падобна, некага білі... У камеры ўсе прыціхлі, услухваючыся са страхам...

Камандзір пасунуўся ад дзвярэй убок, дакранаецца да нагі Блатняка:

— Значыць, так. Расчыняць — і я кідаюся. За мной — вы! Адразу ж — астатнія!

— Тады трэба перасесці, — сказаў Блатняк. — Маўчун не пойдзе, дык ён каб у канцы. Хай перасядзе з вучыцелем.

Камандзір агледзеўся ў цемры:

— Правільна. Хай перасядуць!

Маўчун, глуха стогнучы, падняўся са свайго месца і палез у кут да Пажылога. Той таксама нешта мармыча сабе пад нос, мабыць, чымсьці незадаволены...

— Аднак, знясілелі мы, чорт пабяры! — сказаў Блатняк. — У мяне ўжо кішкі да хрыбта прысохлі ад голаду!

— Сволачы! — коратка рэзюмаваў Шапялявы.

Камандзір уважліва прыслухоўваецца... Рух у калідоры заглух...

У камеры ўсталявалася трывожная начная цішыня... Ужо нехта ў цемры пачаў пасопваць... Нехта нешта паціху мармыча сам сабе...

Камандзір, не ўстаючы, сцягвае з сябе шынель і кладзе яго пад сябе. Выбірае найболей зручную позу, каб адразу ўскочыць...

Дрымота між тым пачынае агортваць і яго... Але ён, страпянуўшыся, ціха гукае іншым:

— Не спаць!.. Нікому не спаць!..

І тады ў цемры трохі нехта варухнецца, і зноў усё сціхае...

Камандзіра таксама цягне на сон, і трэба было немалое намаганне, каб адолець дрымоту. І тады ён зноў ціха гукаў:

— Не спаць!.. Нікому не спаць!..

І зноў у цемры варухнуцца цені... І зноў становіцца ціха...

Камандзір усё ж задрамаў... І раптам аж скалыхнуўся ад нечаканага крыку, што раздаўся па той бок дзвярэй:

— Пад'ём! Падгатовіцца: прыём пішчы!.. Пад'ём!.. Прыём пішчы!..

У камеры разам спалохана заварушыліся...
...падскочыў і сеў побач Блатняк...
...санліва ўзняўся Шапялявы...
...прыўзняўся Пажылы...
...Казак у куце нават не варухнуўся...
У сцяне, насупраць Камандзіра, цьмяна азначылася невялічкае закрачанае акенца...
Сталі відаць плечы... галовы... шэрыя твары арыштантаў...
Камандзір упершыню бачыць людзей, з якімі прабыў ноч...
Крык у калідоры чуецца далей...
— Чуеце? Жраць дадуць!.. Чуеце? — збянтэжанасць на твары Блатняка імгненна змянілася бадай што дзіцячай радасцю.
Шапялявы з прагнай увагай імкнуўся злавіць гукі з калідора, і яго запалыя, аброслыя шчэццю шчокі ды разяўлены ад увагі рот, з выбітымі наперадзе зубамі, выдавалі слабасільнага, змардаванага жыццём чалавека...
Крыху далей, у рэдзенькім сяйве святла з акенца, блішчэла лысая галава старога настаўніка з зусім белым пушком — рэштаю валасоў над вушамі...
У густым цені пад акенцам туліцца нябачны ад парога Казак...
Здаецца, паведамленне пра харч усіх збіла з тропу... Камандзір бачыць...
Напружаныя твары Шапялявага... Вучыцеля... Блатняка...
За дзвярмі лязгае замок... Камандзір ускочыў на ногі і чакае...
Дзверы трохі прыадчыніліся і цераз парог на падлогу цяжкавата грукнула старое закапцелае бляшанае вядзерца. У камеру шыбануў знаёмы пах гарачай кашы-пярлоўкі.
— На пяцёх вам.
Камандзір толькі сабраўся кінуцца ў дзверы, як яму спрытна перагарадзіў шлях Блатняк, шмыгнуўшы да вядра...
Дзверы зачыніліся...
— Братва, жывём! — з ненатуральнаю радасцю закрычаў Блатняк. Ён хапае вядзерца і, сноўдаючы на каленях, пачаў уладкоўваць яго пасярод камеры...
Камандзір збянтэжана стаіць ля дзвярэй...
Да вядра на карачках падсоўваецца Шапялявы...
Запаволена, бы нерашуча, пачаў мясціцца ля яго Пажылы...
За ім падняўся і Казак...
Камандзір стаіць, нібы апляваны, глядзіць на ўсіх...
— А як жа есці, без лыжак? — пытаецца Шапялявы.

— А ручкамі! Ручкамі, пан эсэр! Во так! — па-блазенску ёрнічае Блатняк і, тут жа, зачарпнуўшы жменяй не дужа густую кашу, пачаў вылізваць яе з прыгаршчаў...

За ім ў вядзерца палез рукой Шапялявы...

З відавочнай няёмкасцю двума пальцамі нешта зачарпнуў сабе Пажылы...

— Ну, а вы што? Ахвіцэр! І ты, Маўчун! Запрашаць трэба? — занадта жвава круціцца ля кашы Блатняк. — Што, можа, не хочаце? Дык як хочаце! Нам болей перападзе, ха-ха...

Блатняк... Шапялявы... Пажылы... Адпіхваючы адзін аднаго ад вядзерца, яны лезуць за кашай рукамі...

Неяк ураз аслабелы Камандзір ціха апускаецца на свой шынель. Ён ашаломлены і спустошаны...

Казак неяк нервова матнуў галавой і садзіцца ў свой куток...

Шапялявы, паспешліва пражоўваючы кашу, кажа Блатняку:

— Ну, а ты плявузгаў: Гунькін роў, Гунькін роў, бо не кормяць... Во і накармілі!

Блатняк прагна глытае кашу з прыгаршчаў:

— Значыцца, перадумалі!.. Мабыць, яшчэ пачакаюць страляць.

Шапялявы аблізвае пальцы:

— Пэўне, пачакаюць. Бальшавікі — яны таксама розныя... Па тваёй жа тэорыі...

— Само сабой... А ты, вучыцель, што думаеш?

Пажылы моўчкі есць кашу...

Камандзір, прыкрыўшы вочы, сядзіць ля дзвярэй на шынялі...

Вельмі хутка яны ўтрох апаражнілі вядзерца і з асалодаю адваліліся плячамі да сцяны. Падобна, пад'елі... І нават, паспакайнелі... Яны задаволіліся...

— А я вам скажу, — роздумна зашамкаў Шапялявы. — Тое, што мы паначы ўдумалі, маланадзейна. І авантурна. Так вопытныя арыштанты не робяць.

— Абсалютная лухта! — жвава пацвердзіў Блатняк. — Хіба на засыпку. А так, можа, яшчэ...

— Можа, і абыдзецца, — разважае Шапялявы. — Калі разабрацца, дык мяне і праўда выпадкам узялі. Гэта мой корыш тую купчыху экспрапрыяваў, а не я. Ну, ды разбяруцца...

— Дык і са мной, мяркую, разбяруцца. Што я — контра які? Я чэсны пралетар! А што спекульнуў трохі, дык за гэта страляць? — размаўляе Блатняк.

— Цябе, можа, і не застрэляць, — ціха азваўся Пажылы. — Але ж тут афіцэр...

Блатняк:
— Ну і што?
— А тое, што яго падманулі. — гаворыць Пажылы.
— А хто, хто яго падмануў? — загарачыўся Блатняк. — Мы самі падмануліся! Ну, не кормяць, думалі — шлёпнуць! Аж, пэўна, не! Дык што ж нам цяпер — напралом? На злом галавы дзеля ахвіцэра? Тут кожны сам за сябе...
— Рызыка павінна быць апраўданай! — глыбакадумна прашамкаў Шапялявы.
Унутры ў Камандзіра штосьці напялася і разам аслабла... Ён нешта пачаў разумець. Ён слухае іх моўчкі, і адчуваецца, як ягоная разгубленасць ператвараецца ў маўклівы нутраны гнеў...
У камеры раптам настала пакутная напружаная цішыня... У ёй важка і нават злавесна чуецца з-пад акенца:
— Скаты!
— Што? — падняўся і сеў на доле Блатняк. — Хто скаты?
— Вы! — кінуў Казак.
— Вы чулі? Чаму гэта мы — скаты? — нервова пытаецца Блатняк.
— Трэба спярша падумаць, чым гаварыць, — пакрыўджана прашамкаў Шапялявы.
Казак неяк няспрытна варухнуўся ў шэрым святле з аконца сваёй крутаплечай паставай і зноў схаваўся ў цені...
— Абзываецца! За афіцэра заступаешся? — прыдзіраецца да Казака Блатняк. — Дык ахвіцэр не крыўдуе! Праўда, ахвіцэр? — ён павярнуўся да Камандзіра.
Той ва ўпор, не міргнуўшы, гняўліва паўзіраўся ў твар Блатняка...
Блатняк нешта адчуў...
— Ахвіцэр нязгодны! — аб'яўляе ён урэшце. — Ён згодны з бандытам! Во як! Ведама, дзве контры!
— Мала, што скаты! Вы яшчэ і падляцы! — з гневам сказаў Камандзір і адвярнуўся да сцяны.
— Ну, я ж казаў: яны контрыкі! Бандыт ды гэты ахвіцэр! — істэрычна залямантаваў Блатняк. — Іх трэба закласці! У ЧК!
— А што ўтойваць! Класавыя ворагі — пырскаючы слінаю з бяззубага рота, гаварыў Шапялявы.
Перад ім спалохана ўскочыў на калені Пажылы:
— Ціха вы, ціха! А то ўчуюць... Яны ж усіх нас...
Але ягоныя ўгаворы толькі раздражнялі не на жарт раззлаванага Блатняка:
— Што — ціха? Чаму я — ціха? Гэта ён хай ціха! Ён забойца! А гэты, ахвіцэр! Яны ворагі! А я лаяльны да савецкай ула-

ды чалавек! Яны задумалі ўцёкі, ты, пацвярдзі! Хто сабраўся канвой душыць? Хто, ну, скажыце!..

— Змоўкніце! Што вы робіце! — упрошвае Пажылы.

Але ягоныя словы наганяюць на Блатняка яшчэ большую злосць:

— А, і ты? І ты, тожа, за іх? І то, контра, за Бога, проціў рэвалюцыі!

І тады, з-пад акенца насупраць, неяк марудна, бы перасільваючы ў сабе знямогу, падняўся Казак. Ён босымі нагамі пераходзіць цераз выцягнутыя на падлозе боты Шапялявага... Марудна, але рашуча, ён накіроўваецца да Блатняка...

Той, учуўшы нядобрае, завішчэў ля парога:

— Не падхадзі! Не падхадзі!

Казак вялізнаю рукой ухапіў яго за грудкі, згроб, пераламіў у паясніцы і паваліў пад сябе долу...

Шапялявы спалохана адхіснуўся ўбок...

Пажылы абмёр у нерашучасці...

Камандзір разумее, што зараз здарыцца нешта кепскае...

— Стойце! — загадаў ён строга. — Стойце, не трэба!

— Прыкончу скаціну!..

— Не трэба! Адпусціце! — загадвае Камандзір.

Раптам залязгаў замок і дзверы рэзка расчыніліся...

— У чым справа! Што такое?..

У дзвярах стаяць двое чэкістаў, не пераступаючы парог.

— Устаць! Усім устаць!..

Першы хуценька ўскочыў Шапялявы...

За ім з натугай падымаецца Пажылы...

Устае камандзір...

Казак у доле з яўнай неахвотай выпускае з рук Блатняка і таксама, цяжка дыхаючы, узгрэбся на ногі...

Блатняк застаецца ляжаць, бы сканаў... Але раптам ён залямантаваў, перабіраючы нагамі ў стаптаных, з глінай на сподзе, гамашах:

— Таварышы чэка, ён бандыт! — паказвае на Казака. — А гэты — ахвіцэр! — паказвае на камандзіра. — Яны ўцячы згаварыліся і ўдушыць мяне, каб я іх не выдаў! Забярыце іх!.. Бандыта і во — ахвіцэра!..

— Так!.. Выхадзі! Усе выхадзі! — загадвае адзін з чэкістаў.

Спачатку ўсе збянтэжыліся, але, раптам, загаварылі адразу разам:

— Як гэта — выхадзі?.. Мы ні пры чым!.. Гэта яны — контра! У расход іх трэба! — лямантуюць Блатняк, Шапялявы і Пажылы...

Чэкіст:
— Я сказаў: выхадзіць усім! Усе пойдзеце ў расход!
Камандзір зірнуў на Казака...
Той усё зразумеў, ледзь прыкметна кіўнуў галавой...
— Давай! — крыкнуў Камандзір і кідаецца на чэкістаў... За ім рашуча дзвінуў Казак...
З размытага малюнка зноў узнікаюць твары Камандзіра і Казака... Перастае смяяцца Камандзір, за ім Казак.
— І ўсё з-за паўвядра пярлоўкі! — кажа Камандзір.
— Ага, — адказвае Казак. — Нажэрліся — і як ракі, назад...
— Пашанцавала нам тады... А зараз...
Забела тым часам раўняе дол у яме, потым пачынае мераць крокамі:
— Раз... два... тры... чатыры... пяць... шэсць... сем... восем... Восем!.. Як раз... Усё! — крычыць ён угору. — Фініта ля камедыя! — кідае рыдлёўку з ямы.
Камандзір падыходзіць да ямы:
— Ладна, годзе, — і кліча астатніх: — Усе сюды!
Усе неяк нясмела, бы баючыся, узлазяць на жвір, бліжэй да ямы...
Камандзір ціха пытаецца:
— Хто першы?
— Першы ўжо ёсць, — сказаў Мяцельскі. — Во, Аўстрыяка...
— Давай яго сюды! — загадаў Камандзір.
Разварочваючы ботамі рыхлую кучу, Мяцельскі рашуча падвалаквае распластанае цела Аўстрыяка да ямы, уніз галавой падае яго Забелу. Той пераймае цела, сцягвае з краю ямы і выпроствае яго ў доле. Хоча злажыць рукі Аўстрыяка на грудзях, але тыя ніяк не складваюцца... Тырчаць скурчанымі пальцамі ўгору...
— Пакінь, не трэба, — кажа Камандзір і дапамагае Забелу выбрацца з ямы.
Мяцельскі стаіць высока на кучы жвіру:
— Дык як будзем? Па адным ці ўсе разам?
— Па адным, — ціха мовіў Камандзір. — З нагана...
— У яме?
— У яме... Каб меней грукату...
Камандзір абводзіць усіх чужым напружаным позіркам...
Яны ўсё зразумелі і сціхлі, нават, не дыхалі...
— Што ж, спадары... Нам не ўдалося, можа, удасца іншым. Яны нас успомняць. Усё ж, мы не за сябе, не за сваё, якога ў нас не было. Мы за Беларусь... нашу няшчасную старонку. Прымі, Божа, твае ахвяры...

Яны ўсе стаяць і маўчаць... Яны чакаюць...

Камандзір, зглытнуўшы даўкі камяк у набалелым горле, раптам сказаў са знарочыстай строгасцю:

— Хто першы?

Выдалася кароценькая пакутная паўза...

Мяцельскі кідае са злосным адчаем:

— Ат, мацьтваю... Давай я... — І, абрушваючы жвір, рашуча скочыў у яму. — Дайце рэвальвер!

Камандзір расшпіліў на баку кабур, выняў наган і падае Мяцельскаму.

Той ухапіў яго знізу і рухава выцягваецца побач з Аўстрыякам...

— Жыве Беларусь!

— Жыве... — нечакана слабым голасам азваўся Камандзір, але яго перапыніў глухі рэвальверны стрэл у яме.

Дзве сарокі з бліжняй бярозы спалохана пераляцелі далей...

На зямлі зноў настала пакутная паўза... Усе стаяць моўчкі...

— Ну, хто далей?.. Ты, Зубко? — няпэўна павярнуўся Камандзір у бок Дзеда.

Той нерашуча робіць некалькі крокаў праз жвір, спыняецца:

— А ружжо?

— З ружжом, братка, — мякка сказаў Камандзір.

Дзед неяк грузна зваліўся ў яму...

І зноў яны стаяць нерухома, чакаючы...

Стрэл коратка грукнуў і сціх...

— Ну? — павярнуўся Камандзір да астатніх. — Ты? — запытальна зірнуў ён на Кажухара.

— Ды я... Калі адважуся... Калі што, дык прыстралі, Камандзір. Калі што... — і няспрытна ўссеўшы на край ямы, Кажухар ціха споўз туды...

Камандзір павярнуўся да астатніх...

Перад ім стаяць удвох: Казак і Валодзька...

Казак уважліва зірнуў у вочы Камандзіра, затым няспешна, разам з вінтоўкай, лёгка шаснуў у яму, дзе амаль адразу грымнуў стрэл...

На край ямы ступіў амаль змярцвелы Валодзька...

— Сулашчык! — гукнуў да яго Камандзір. — Пастой...

Камандзір падыходзіць да Валодзькі:

— Табе, Сулашчык, заданне: закапаць, зараўняць! Каб следу ніякага не асталося!.. І — жыві!

— Я?

— Ты, а хто ж... Жыві!.. За нас!.. За бацьку!.. Дай я цябе абдыму!

Няспрытна, адною рукой, Камандзір нямоцна абняў Валодзьку. Трохі памарудзіў і, густа абрушваючы жвір, зваліўся ў яму...

Валодзька застаўся стаяць — ашаломлены, разгублены... Скалануўся ад неспадзеўкі, калі з ямы пачуўся апошні стрэл...

І наступае цішыня... Толькі недзе здалёк чуецца сакатанне сарок.

Валодзька закопвае яму-магілу і плача... Ужо можна было не стрымліваць слёз, саромецца тут не было каго... У яму ён не зірнуў ні разу, ён гроб і гроб рыдлёўкай рыхлы жвір з берагоў...

На небе з'явіліся цёмныя аблокі... Здалёк пачуўся грукат навальніцы... Пачынаецца дождж...

Валодзька закідвае галлём тую мясціну, дзе была яма, і з рыдлёўкай у руцэ пацягнуўся па лядзе да лесу...

Прыпыняецца, размахнуўся і кідае, далёка-далёка ад сябе, рыдлёўку ў густы лес. Апошні раз абярнуўся ў бок, дзе была яма, і зноў цягнецца па лесе...

Грукат навальніцы становіцца ўсё мацней, мільгаюць маланкі... Усё мацней ідзе дождж...

А Валодзька ўсё ідзе па лесе... Слёзы на яго вачах перамешваюцца разам з дажджом...

І над Валодзькам... над лядамі... над лесам... на фоне навальніцы гучыць дыктарскі тэкст:

«Яны ведалі, што прысуд ім быў вынесены даўно, гэты зыход быў відавочны, як толькі яны кінулі выклік страшнай сіле і сталі са зброяй у строй. Выклік быў дзёрзкі і рашучы, а сілы ўсё ж малыя. Як заўжды, масы засталіся ўбаку, не падтрымала іх Беларусь. Але яны павінны былі пачаць. Для іх было відавочна: тое трэба было калісь зрабіць, раней ці пазней. Без таго, без іхняе безагляднае адвагі, ахвяр і крыві ўся іх нацыянальная справа, бы невылечны сухотнік, асуджана на вялы, задоўжаны скон. Цяпер гэтаму не бываць! Зерне кінута, па вясне ўгрэецца глеба, будуць усходы! Колькі б зіма ні доўжылася, настане вясна! Яны ж угнояць глебу, мусіць, такое іх гістарычнае прызначэнне, так трэба. Для вольнай радзімы, для гісторыі...»

*[1994 г.]*

# КАМЕНТАРЫ

Дзявяты том Поўнага збора твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава змяшчае кінасцэнарыі «Третья ракета», «Альпийская баллада», «Западня» (сцэнарый Л. Мартынюка, пры ўдзеле В. Быкава), «Двое в ночи», «Волчья стая», «Долгие версты войны», «Ушедшие в вечность (Обелиск)» (у суаўтарстве з Р. Віктаравым), «Его батальон» (пры ўдзеле А. Карпава), «На Чорных лядах» (сцэнарый В. Панамарова, пры ўдзеле В. Быкава).

Творы падаюцца паводле храналагічнага прынцыпу на мове арыгіналаў: беларускай ці рускай. У «Каментарах» да твораў выяўляюцца значныя варыянтныя тэксталагічныя разыходжанні.

Нягледзячы на тое, што кінадраматургія займае даволі значнае месца ў творчасці Васіля Быкава, сам пісьменнік не надаваў ёй вялікай увагі і не ўключаў гэтыя тэксты ў Зборы твораў ці ў асобныя выданні. «Грэбаванне» Васілём Быкавым сваёй кінадраматургіяй можна, напэўна, патлумачыць не толькі скептычным стаўленнем пісьменніка да экранізацый сваіх твораў. Мабыць, адна з галоўных прычын — быкаўская кінадраматургія ўсё-такі другасная, за некаторымі выключэннямі (як, напрыклад, арыгінальны сцэнарый 3-й серыі мастацкага тэлефільма «Долгие версты войны») яна створана па матывах аповесцяў. Па-другое, зададзенасць рамак драматургічнага жанру пазбаўляла В. Быкава абсалютнай творчай самастойнасці. Так, яшчэ ў 1968 г. ён раіў сябру А. Адамовічу[1]: «Мне лично хочется, чтобы ты писал больше (в этой связи я не могу одобрить твоей связи-волокиты с кино, которое в наше время ничего общего с искусством не имеет, разве что дает возможность заработать. [...])»[2]. У 1975 г. пры-

[1] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; 1927–1994) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец; доктар філалагічных навук (1963), прафесар (1971), член-карэспандэнт АН БССР (1980); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[2] З ліста ад 29 верасня 1968 г. Машынапіс з подпісам В. Быкава. Арыгінал. Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры (далей — ДМГБЛ). КП 029538.

знаваўся В. Аскоцкаму[1]: «Теперь вот кино. Снят более-менее сносно один фильм в Минске по “Волчьей стае”, на “Ленфильме” же после того, как там тоже вытянули из меня все жилы и сняли полкартины, фильм закрыли и режиссера сняли. Надоело мне все это, ты не можешь себе представить как. [...] И отбиться совершенно невозможно, негде от них прятаться, просто насилуют — деликатно, но с мертвой хваткой»[2]. Іншым разам пісаў: «Совершенно не работалось, не отдыхалось, не пилось даже. Не пришлось мне съездить и в Баку, куда я хотел. И все это проклятое кино!.. С театром я уже покончил, надеюсь в ближайшее время покончить с кино (будь оно проклято) и почувствовать себя человеком, если, конечно, не заниматься еще и литературой»[3]. Пазней пісаў Л. Лазараву[4]: «...все мои фильмы получились сопливые, смотреть нечего»[5]. І ў той жа час рэзюмаваў: «Несколько лет жизни я выбросил коту под хвост в образе театра и кино, которые не дали мне взамен ничего, кроме дули. Напрасно потраченные годы, горы бумаги, масса усилий, сведенных чиновниками и бездарями от кино к обычной серой халтуре»[6].

Невыпадкова М. Кузняцоў, разважаючы пра праблему ўзаемаадносінаў кінематографа «с таким своеобразным писателем, как Василь Быков», пісаў: «Его рассказы и повести как будто специально созданы для кинематографа: компактные, емкие, с драматичнейшим сюжетом, с резко, даже резчайше очерченными характерами (“черное — белое!”), с острейшей, нередко трагедийной и в то же время философской концовкой. Сейчас большинство из них экранизировано. И какое удручающее разочарование: серые картины, “еще раз о войне”, не оставившие сколько-нибудь заметного следа. Возникло даже мнение, что кино “не умеет” ставить Быкова.

Казалось бы, рассказы и повести В. Быкова всецело в русле “второго рождения военной темы”: та же воинствующая точность реалий военного быта, острота ситуации, нравственная проблема-

---

[1] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (1931–2010) — рускі крытык, літаратуразнавец, публіцыст; кандыдат філалагічных навук (1968); сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы.

[2] З ліста ад 9 чэрвеня 1975 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

[3] З ліста да В. Аскоцкага ад 21 лістапада 1975 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

[4] Лазараў Лазар Ільіч (1924–2010) — расійскі крытык, літаратуразнавец; кандыдат філалагічных навук (1954); з 1961 г. працаваў у часопісе «Вопросы литературы», з 1992 г. — яго галоўны рэдактар. Аўтар шматлікіх крытычных нарысаў пра В. Быкава і кнігі «Василь Быков: Очерк творчества» (1979).

[5] З ліста ад 8 сакавіка 1976 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

[6] З ліста да В. Аскоцкага ад 1 сакавіка 1976 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

тика. Однако постепенно стало выясняться, что это и “то”, и “не то”. Ситуация у него была не просто острая и критическая, а наиострейшая, наикритичнейшая: герои стоят перед выбором — смерть или жизнь ценой предательства. Речь идет не просто о победе, а о цене ее и ее смысле. [...]

В экранизациях Быкова не было, прежде всего, его чрезвычайной достоверности войны, “документальности”. То ли в силу врожденной робости дарования, то ли еще почему, но режиссеры не осмеливались на эту достоверность, создавая привычное и шаблонное изображение войны “вообще”. Что касается “большего”, то на него не было даже и намека»[1].

А так пра «кінематаграфічны» перыяд жыцця сябра пісаў А. Адамовіч: «Косяком пошли фильмы “по Быкову”. От них В. Быкову, его писательскому авторитету, пожалуй, не поздоровится. Кино такая штука: или добавит, приплюсует талант создателей фильма к тому, что заключено в экранизируемой прозе, или отнимет, и тоже на величину, равную теперь уже их бесталанности. [...]

Литератора, приходящего в кино, поражает, как здесь всё и все знают больше самого писателя: что надо и чего не надо нашему зрителю, сколько правды о войне — “в самый раз”, а сколько — “зритель не выдержит”.

Я тоже зритель, но никак не подозревал, что я такой слабонервный и так мало правды способен унести, переварить. Во всех почти фильмах “по Быкову” убран тот жар и холод, которые мы физически ощущаем вместе с героями, читая его прозу. И главное — без чего и вовсе нет Быкова! — исчезает острота социально-нравственных коллизий. Читателю — можно, зрителю — противопоказано...»[2].

У другой палове XX стагоддзя па творах В. Быкава было пастаўлена дзевятнаццаць мастацкіх фільмаў. Да значнай часткі з іх пісьменнік сам напісаў сцэнарыі ці зрабіў гэта ў суаўтарстве з рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі: «Третья ракета», «Альпийская балла-

---

[1] Кузнецов М. Книги и фильмы. М.: Знание, 1978. С. 46–47.

[2] Адамович А. О современной военной прозе. М.: Советский писатель, 1981. С. 37. Заўважым, што адну экранізацыю А. Адамовіч і В. Быкаў усё-такі вылучалі: «Восхождение» Л. Шапіцькі. Так, В. Быкаў пісаў: «“Узыходжаньне” — найлепшая за ўвесь дзясятак экранізацыяў маіх аповесьцяў» (Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў; Масква: Время, 2009. Т. 8. С. 290). У асабістым архіве малодшага сына пісьменніка Васіля Васільевіча Быкава ў г. Гродна (далей — Архіў В. Быкава (Гродна) захоўваецца «Типовой договор о переделке повествовательного произведения в киносценарий (об уступке права экранизации)» ад 17 верасня 1975 г. за подпісамі намесніка генеральнага дырэктара к/с «Мосфильм» М. Іванова і В. Быкава, згодна з якім пісьменнік даваў дазвол на перапрацоўку «Сотнікава».

да», «Западня», «Волчья стая», «Дожить до рассвета»[1], «Долгие версты войны», «Обелиск», «Его батальон», «На Чорных лядах». У іншых выпадках уступіў права на перапрацоўку сваіх твораў для іх далейшай экранізацыі: так былі зняты кароткаметражны мастацкі фільм «Желаю удачи» (1968, к/с «Беларусьфільм»; сцэнарый У. Бяляева, рэжысёр В. Смагін; па матывах апавядання «Чацвёртая няўдача»[2]), «Восхождение» (1977, к/с «Мосфильм»; сцэнарый Ю. Клепікава, Л. Шапіцькі, рэж. Л. Шапіцька; прэмія Ватыкана, галоўная прэмія і прэмія Міжнароднай асацыяцыі кінапрэсы на Міжнародным к/ф у Заходнім Берліне), «Фруза» (1981, ПТА «Телефильм», к/с «Беларусьфільм»; сц. Ф. Конева, рэж. В. Нікіфараў)[3], «Крохи войны» (1985, к/с «Профиль» (Польшча); сцэнарый А. Баршчыньскага, Я. Хадкевіча; па матывах аповесцяў «Круглянскі мост» і «Трэцяя ракета»), «Знак беды» (1986, к/с «Беларусьфільм»; сцэнарый Я. Грыгор'ева, А. Нікіча, рэжысёр М. Пташук), «Круглянский мост» (1989, Студыя імя Ю. Тарыча, к/с «Беларусьфільм»; сцэнарый М. Шэлехава; рэжысёр А. Мароз)[4], «Карьер» (1990, к/с «Мосфильм»;

---

[1] Пастаўлены рэжысёрамі М. Яршовым і В. Сакаловым у 1975 г. на к/с «Ленфильм» па сцэнарыю В. Быкава (у суаўтарстве з В. Сакаловым). У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца «Типовой сценарный договор» ад 20 чэрвеня 1974 г. за подпісамі дырэктара Другога творчага аб'яднання к/с «Ленфильм» А. Аршанскага, В. Сакалова і В. Быкава. Сцэнарый Рэдкалегіяй Поўнага збору твораў пакуль не знойдзены.

[2] У фондзе к/с «Беларусьфільм» у папцы з матэрыяламі па фільму «Желаю удачи» захоўваецца «Авторский договор» ад 8 ліпеня 1968 г. на права набыцця апавядання «Чацвёртая няўдача» з мэтай экранізацыі, за подпісамі дырэктара к/с «Беларусьфільм» В. Паўцова і В. Быкава (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛМ). Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 508. Арк. 23). Мяркуючы па ўсім, ініцыятыва экранізацыі зыходзіла ад кінастудыі — на гэта ўказвае наступны ліст:

«Главному редактору студии “Беларусьфильм”

Настоящим выражаю моё согласие на экранизацию рассказа “Четвёртая неудача” по сценарию, написанному по Вашему выбору.

*В. Быков*

*19/XII–67 г.*»

(Аўтограф. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 508. Арк. 2). Сцэнарый быў падрыхтаваны на «Беларусьфільме» для дыпломнай працы выпускніка рэжысёрскага факультэта Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі В. Смагіна.

[3] У фондзе к/с «Беларусьфільм» у папцы з матэрыяламі па фільму «Фруза» захоўваецца «Типовой договор об уступке права экранизации (переделки) произведения» ад 19 чэрвеня 1981 г. за подпісамі дырэктара к/с «Беларусьфільм» Я. Вайтовіча і В. Быкава. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 277. Арк. 7–8.

[4] У фондзе к/с «Беларусьфільм» у папцы з матэрыяламі па фільму «Круглянский мост» захоўваецца «Типовой договор об уступке права

сц. Э. Валадарскага, рэж. М. Скуйбін), «Одна ночь» (1991, Беларускае тэлебачанне; сцэнарыст і рэжысёр У. Колас), «Пойти и не вернуться» (1992, к/с «Беларусьфільм»; сцэнарый А. Карпава, рэжысёр М. Князеў)[1].

---

экранизации (переделки) произведения» ад 18 красавіка 1987 г. за подпісамі дырэктара к/с «Беларусьфільм» У. Гарбачова і В. Быкава: БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 996. Арк. 79.

[1] У фондзе к/с «Беларусьфільм» захоўваецца машынапісная копія літаратурнага сцэнарыя фільма «Пойти и не вернуться» (1-я і 2-я серыі: БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1649. Арк. 1–54; Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1650. Арк. 1–54), на 1-м аркушы пазначана: «Василь Быков», «ПОЙТИ И НЕ ВЕРНУТЬСЯ», «Сценарий двухсерийного телефильма», «Минск—1988 г.», злева ўнізе: «Вх. № 31 10.04.89 г.»; на апошнім аркушы: «В. Быков», «Минск, 1988 г.». Сярод іншых дакументаў таксама захоўваецца «Предуведомление к написанному сценарию двухсерийного телевизионного фильма “ПОЙТИ И НЕ ВЕРНУТЬСЯ”» (2 машынапісныя аркушы ў 2 экз.; БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1653. Арк. 33–36) — лібрэта літаратурнага сцэнарыя, якое заканчваецца наступным чынам: «Если эта тема своей гражданственной и нравственной позицией заинтересует вас, мы, автор сценария и режиссер, готовы к работе по ее осуществлению как государственный заказ. Автор сценария Василь Быков, режиссер Александр Карпов». Аднак ёсць падставы меркаваць, што «Предуведомление» было напісана выключна А. Карпавым. У лісце ж мастацкага кіраўніка студыі «Кадр» В. Нікіфарава і галоўнага рэдактара студыі М. Шэлехава да в. а. генеральнага дырэктара «Союзтелефильма» Г. Тараненкі адзначалася, што «сценарий “Пойти и не вернуться” авторами задуман как завершение трилогии историко-патриотической темы “Человек и война”» (З ліста ад 11 красавіка 1989 г. Машынапіс. Копія. Тамсама, арк. 30). У наступным лісце В. Нікіфарава і М. Шэлехава паведамлялася пра ўключэнне «Пойти и не вернуться» ў тэматычны план вытворчасці тэлефільмаў на 1990 г. студыі «Кадр» к/с «Беларусьфільм», аднак пры гэтым адзначалася, што «по причинам нежелательности производства двухсерийных картин для телеэкрана [...] были даны рекомендации создать односерийную телекартину» (З ліста да галоўнага рэдактара ТПА «Союзтелефильм» Г. Грошава, без даты. Машынапіс. Копія. Тамсама, арк. 28). Між тым у «Заключении художественного совета студии “Кадр” на литературный сценарий односерийного телевизионного фильма “Пойти и не вернуться”» ў якасці аўтара пазначаны ўжо не толькі В. Быкаў, але і А. Карпаў (Тамсама, арк. 26–27), а ў заключэнні на рэжысёрскі сцэнарый А. Карпаў названы і рэжысёрам-пастаноўшчыкам, і адзіным аўтарам сцэнарыя («Заключение (производственное) на режиссерский сценарий односерийного телевизионного художественного фильма “Пойти и не вернуться” (по мотивам одноименной повести В. Быкова). Студия “Кадр”» ад 25 студзеня 1990 г. за подпісам старшага рэдактара па вытворчаму рэдагаванню сцэнарыяў Л. Чыжэўскай. Машынапіс). Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1654. Арк. 34). І тады ж, у студзені 1990 г., А. Карпаў, як аўтар сцэнарыя, падпісаў дамову («Типовой сценарный договор

На пачатку XXI стагоддзя былі зняты кароткаметражныя кінастужкі «Мать» (2003, відэаальманах «Территория сопротивления» (Беларусь); сцэнарыст і рэжысёр Я. Сяцько; студэнцкая праца па матывах апавядання «Сваякі» і аповесці «Знак бяды»; прыз журы Міжнароднага кінафестываля (далей — МКФ) «Славянская юность: мечты и надежды» (Масква, Расія), 2004; Галоўны прыз МКФ «Золотой Витязь» (Чалябінск, Расія), 2005), «Отражение» (2003, Беларуская акадэмія мастацтваў, сцэнарыст і рэжысёр А. Голубеў; па матывах апавядання «Адна ноч»), «Пойти и не вернуться» (2004, сцэнарыст і рэжысёр Я. Сяцько (Беларусь), дыпломная праца), «Обреченные на войну» (2009, «Кинопродвижение» (Расія), сцэнарый В. Жулінай, А. Ісаевай, рэжысёр В. Жуліна; экранізацыя аповесці «Пайсці і не вярнуцца»; прыз актрысе Н. Лашчынінай за лепшую жаночую ролю на VII Міжнародным фестывалі ваеннага кіно імя Ю. М. Озерава (Растоў-на-Доне, Расія, 2009).

Але не ўсе намеры кінематаграфістаў былі ажыццёўлены. Так, яшчэ ў 1966 г. В. Быкаў атрымаў з Творчага аб'яднання «Юность» кінастудыі «Мосфильм» тэлеграму з прапановай аб экранізацыі «Мёртвым не баліць»[1]. Аднак ужо праз месяц пачалася шматгадовая кампанія шальмавання пісьменніка, і, відаць, таму гэтае пытанне больш не ўздымалася. Таксама не дазволілі экранізаваць гэтую аповесць на «Беларусьфільме» Л. Мартынюку[2] — ні ў 1966–1967 гг., ні пазней — у 1990 г. Па сведчанні Л. Мартынюка, у 1966 г. ён перадаў

---

для художественных многосерийных телефильмов» № 26 за подпісамі дырэктара к/с «Беларусьфільм» У. Гарбачова і А. Карпава. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1653. Арк. 22–24), В. Быкаў жа заключыў дамову на ўступку права экранізацыі («Типовой сценарный договор об уступке права экранизации (переделки) произведения» № 25 за подпісамі У. Гарбачова і В. Быкава. Тамсама, арк. 25; пазней з А. Карпавым была заключана новая аналагічная дамова: «Типовой сценарный договор для художественных многосерийных телефильмов» ад 29 лістапада 1991 г. за подпісамі У. Гарбачова і А. Карпава. Тамсама, арк. 14–16; 2-і экз. — арк. 17–19; 3-і экз. — арк. 7–9). Зыходзячы з гэтага можна зрабіць вывад, што В. Быкаў не з'яўляецца аўтарам сцэнарыя «Пойти и не вернуться». Гэта ж пацвярджае і сын рэжысёра А. Карпава — Аляксандр Карпаў (Паводле гутаркі аўтара каментароў з А. Карпавым. Снежань 2011 г.). Дададзім таксама, што 6 лютага 1990 г. фільм быў пастаўлены на кансервацыю (Згодна з загадам № 73 У. Гарбачова ад 6 лютага 1990 г. Машынапіс. Арыгінал. БДАМЛіМ. Ф. 112. Воп. 3. Адз. зах. 1654. Арк. 29). Здымкі карціны пачаліся ў лютым 1992 г., але з прычыны хваробы А. Карпава новым рэжысёрам-пастаноўшчыкам «Пойти и не вернуться» стаў М. Князеў.

[1] Тэлеграма дырэктара ТА «Юность» Ю. Салдаценкі ад 17 сакавіка 1966 г. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

[2] Мартынюк Леанід Уладзіміравіч (нар. у 1932) — беларускі рэжысёр, сцэнарыст, журналіст.

М. Лужаніну[1] аўтарскі экзэмпляр машынапісу «Мёртвым не баліць» з просьбай аб пастаноўцы аповесці (В. Быкаў сказаў па тэлефоне: «Леанід, пішы сцэнарый. Сучасны сюжэт выкінь. Я згодзен. Веру ў цябе. З богам!»[2]). Адмоўны адказ атрымаў праз некалькі тыдняў ужо ад дырэктара «Беларусьфільма» У. Іваноўскага. Далейшыя спробы Л. Мартынюка экранізаваць «Мёртвым не баліць» таксама нічым не скончыліся, нават на пачатку 1990-х гг., але цяпер ужо з-за адсутнасці фінансавання[3]. Праз дзесяцігоддзе не атрымаў дазвол на экранізацыю «Мёртвым не баліць» ад Міністэрства культуры Беларусі і В. Панамароў[4], якому пісьменнік дазволіў у 1999 г. паставіць дзве свае аповесці, у тым ліку «У тумане»[5].

А яшчэ ў 1973 г. не дазволілі экранізаваць «Сотнікава» І. Дабралюбаву[6], хоць сцэнарый В. Быкавым быў не толькі напісаны, але нават перароблены — мяркуючы па ўсім, з прычыны прэтэнзій кінематаграфічнай цэнзуры. Тады ж не атрымаў дазвол ад Дзяржаўнага камітэта СССР па кінематаграфіі на напісанне сцэнарыя па «Круглянскаму мосту» і Э. Валадарскі[7].

А на пачатку 2000-х ужо зноў не пашчасціла І. Дабралюбаву, калі ён задумаў зняць апавяданне «Жоўты пясочак», — тагачасны міністр культуры Беларусі Л. Гуляка спаслаўся на адсутнасць грошай[8] (што,

---

[1] Лужанін Максім (Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001) — беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык. З 1959 г. член сцэнарнай калегіі «Беларусьфільма»; у 1967–1971 гг. — галоўны рэдактар кінастудыі.

[2] Тут і ў падобных выпадках далей каментары даюцца паводле гутаркі аўтара каментароў з Л. Мартынюком. Люты 2010 г.

[3] У асабістым архіве Л. Мартынюка (далей — Архіў Л. Мартынюка) захоўваюцца два малюнкі В. Быкава, верагодна, 1989 г., на якіх пісьменнік схематычна нарысаваў асноўныя месцы падзей аповесці «Мёртвым не баліць», а таксама «Проект сметы затрат на производство к/к “Мёртвым не больно”» і «Заявка на войска и технику на 1990 год по студии “Диалог”» ад 7 верасня 1989 г. за подпісам дырэктара «Диалога» Л. Баталавай. За кінасцэнарый (напісаны Л. Мартынюком, але аўтарам пазначаны В. Быкаў) пісьменнік атрымаў ганарар, аднак палову грошай аддаў рэжысёру — у адрозненне ад усіх іншых літаратараў, з кім працаваў Л. Мартынюк і ад імя каго пісаў сцэнарыі.

[4] Панамароў Валерый Дзмітрыевіч (нар. у 1943) — беларускі рэжысёр, сцэнарыст.

[5] «Доверенность» ад 9 мая 1999 г. Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Панамарова.

[6] Дабралюбаў Ігар Міхайлавіч (1933–2010) — беларускі рэжысёр, сцэнарыст; народны артыст БССР (1985); лаўрэат прэміі ЛКСМБ (1970); прафесар Інстытута сучасных ведаў імя А. М. Шырокава.

[7] Валадарскі Эдуард Якаўлевіч (нар. у 1941) — рускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст.

[8] Гл.: Добролюбов И. Осколки памяти. Минск: Харвест, 2006. С. 215–219; Шапран С. Кина не будет?: У Минкультуры не находится денег на

аднак, не перашкаджала з’яўляцца новым стужкам «Беларусьфільма», але не «па Быкаву»). У 2000 г. без адказу засталася і заяўка ў адрас кіраўніцтва беларускай кінастудыі ад рэжысёра В. Нікіфарава, які меркаваў экранізаваць аповесць «Ваўчыная яма», — яго заяўка на «Беларусьфільме» нават не разглядалася, хаця пісьменнік даваў В. Нікіфараву сваю згоду на «исключительное участие в организации финансирования, производства и постановки фильма»[1].

Між тым, праблемы ўзнікалі і раней — яшчэ са «Знаком беды», калі супраць яго выступіў сакратар ЦК КПСС Я. Лігачоў (услед за ім і ЦК КПБ — у асобе загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ І. Антановіча). Фільм быў выратаваны толькі дзякуючы таму, што спадабаўся сям’і Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова[2]. Аднак яшчэ адна экранізацыя В. Быкава — карціна «На Чорных лядах» (1995) — на шырокі экран так і не выйшла.

З іншага боку — такі «дзіўны» факт: у 1974 г. сцэнарый адной з серый тэлефільма «Долгие вёрсты войны» В. Быкаў напісаў па матывах «Праклятай вышыні»[3] — адной з трох яго знакамітых «новомирских» аповесцяў, якія пасля часопіснай публікацыі апынуліся пад забаронай. Хоць у гэты ж самы час аўтару не дазволілі ўключыць «Праклятую вышыню» ў двухтомнік[4], і ўпершыню ў кніжным фармаце яна выйшла толькі ў 1982 г., у перакладзе на рускую — у 1986-м.

Пры падрыхтоўцы чаргорвых тамоў Поўнага збора твораў Рэдкалегія сутыкнулася з пэўнымі цяжкасцямі. Па-першае, пэўная складанасць палягала ў вызначэнні суаўтарства некаторых кінасцэнарыяў. Напрыклад: хоць у выпадку з фільмам «Западня» ва ўсіх дакументах і фільмаграфіях к/с «Беларусьфільм» В. Быкаў пазначаны як адзін з суаўтараў сцэнарыя (разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Л. Мартынюком), аднак, як вынікае з цытаванага ніжэй ліста пісьменніка ды іншых крыніцаў, сцэнарый ён не пісаў. Але паколькі, па сведчанні Л. Мартынюка, В. Быкаў меў непасрэднае дачыненне да стварэння другога варыянта сцэнарыя, Рэдкалегіяй Поўнага збора твораў было прынята рашэнне ўключыць літаратурны сцэнарый «Западни» ў адпаведны том.

Па-другое, некаторыя са сцэнарыяў маюць два-тры варыянты («Третья ракета», «Альпийская баллада», «Волчья яма»), таму

---

экранизацию Игорем Добролюбовым рассказа Василя Быкова / инт. с И. Добролюбовым // Белорусская деловая газета. 2002. 26 сент.

[1] З ліста В. Быкава да В. Нікіфарава ад 28 кастр. 1999 г. Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Ліст і заяўка захоўваліся ў асабістым архіве В. Нікіфарава, у 2007 г. перададзеныя рэжысёрам у Архіў В. Быкава.

[2] Гл.: Михаил Пташук: Исповедь кинорежиссера. Сценарий художественного фильма. Публикации. Воспоминания / ред.-сост. Л. М. Пташук. Минск: Мастацкая літаратура, 2004. С. 36–40, 42, 44–46.

[3] Упершыню надрукавана ў 1968 г. у часопісе «Маладосць» (№ 5) і пад назвай «Атака с ходу» — у «Новом мире» (№ 5; пер. аўтара)

[4] Быкаў В. Выбр. тв.: у 2 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1974.

паўставала пытанне: якому з варыянтаў аддаць перавагу. Рэдкалегіяй зноў жа было прынята рашэнне спыніцца на апошняй рэдакцыі — як найбліжэйшай да экраннага ўвасаблення (але зноў жа не канчатковай, паколькі далей з літаратурным сцэнарыем працаваў рэжысёр, у выніку чаго з'яўляўся рэжысёрскі сцэнарый, у які пасля зноў уносіліся змены і рабіліся скарачэнні; пэўныя карэктывы чакалі затым і сам кінафільм). Хаця нельга выключаць, што аўтарскай задуме В. Быкава ў найбольшай ступені адпавядае ўсё-ткі першы варыянт сцэнарыя, аднак наяўнасць некалькіх рэдакцый аднаго і таго ж сцэнарыя тлумачыцца ўмяшальніцтвам у кінематаграфічны працэс шмат якіх інстанцый і асобаў, пра што В. Быкаў напісаў яшчэ ў 1970-я гг.: «Мне кажется, что процесс создания фильма увлекает куда более, чем написание книги. Иногда он захватывает. Писатель-одиночка, войдя в качестве автора в съемочную группу, попадает как бы в стремнину, неудержимо мчащуюся к своему финишу, за которым — многомилионная аудитория зрителей. Экранизация литературного произведения, хотя она и не часто удается, всегда грандиозная его популяризация. [...]

И тем не менее требовательный литератор вряд ли может вполне удовлетвориться сложившейся ныне практикой создания фильма.

Пожалуй, ни в одном из искусств личность автора, его талант и право не находятся в такой поистине непостижимой зависимости от многочисленных привходящих факторов, как в кино. Не в пример народному хозяйству, где главным двигателем научно-технического прогресса все решительнее становится специалист, в кино этот специалист — фигура, более всего напоминающая тупоумного разгильдяя школьника, по отношению к которому считается вполне допустимым постоянно его опекать, контролировать, вдалбливать в его тупую голову элементарные вещи. Нередко положение, когда неудачи того или иного фильма никак не отнесешь на счет сценариста или постановщика. Очень часто эти неудачи — следствие узости взгляда, эстетической глухоты, а то и откровенной перестраховки людей, чьи имена хотя и не находят места на титрах, но тем не менее решают судьбу фильма. Режиссер-постановщик зачастую не более чем лицо с обязанностями кинопрораба, которому поручается перевести на язык образов положения и идеи, скрепленные печатью и подписями тех, кто, обладая решающей в этой области властью, практически не несет никакой ответственности за качество фильма.

Понятно, что атмосфера неусыпной опеки и бюрократической регламентации, вполне привычная на ряде республиканских студий, — не самое лучшее из условий для развития кинематографа. Очевидно, этим в известной мере объясняется тот все еще безрадостный факт, что разборчивые литераторы все-таки сторонятся киностудий»[1]. Між іншым, тут жа В. Быкавым была зроблена істотная праўка — у першай

[1] Чарнавы аўтограф (2 аркушы). Архіў В. Быкава (Гродна).

рэдакцыі сказа: «...личность автора, его талант и право не находятся в такой поистине непостижимой зависимости от многочисленных привходящих факторов...» замест апошніх трох слоў было — «многочисленного бюрократического аппарата». Невыпадкова ў лісце да Л. Мартынюка В. Быкаў пісаў: «Я дал себе слово завязать с кино, у меня больше нет сил, а главное — нет нервов — все повытащили по пучку, по волоконцу. И — понапрасну. Столько написано и снято и хоть бы одна удача...»[1].

Пісьменнік вяртаўся да гэтай тэмы і значна пазней, але ўжо з вядомай доляй іроніі: «Кіно, казалі, мастацтва калектыўнае, ніякі самы геніяльны мастак адзін фільм ня зробіць. А паколькі яно яшчэ і дарагое, а грошы дзяржаўныя, дык натуральна, што ў той справе ўдзельнічаюць, апроч студыйнага кіраўніцтва, яшчэ Камітэт па кіно, Галоўны камітэт у Маскве, Саюз кінематаграфістаў. Ну і, вядома, аддзел культуры ЦК КПБ разам з аддзелам прапаганды. І яшчэ — палітупраўленьне вайсковай акругі — карціна ж вайсковая. Неяк мы падлічылі, атрымалася, што каля 60 асобаў маюць права ўмяшацца ў кінапрацэс, нешта забараніць, зьмяніць, запатрабаваць. Што ўвогуле і рабілі, бо кожны хацеў апраўдаць той хлеб, які еў на сваёй хлебнай пасадзе»[2].

Так ці інакш, але аўтарства другой ці трэцяй рэдакцыі кінасцэнарыяў належыць таксама В. Быкаву. Зрэшты, заўвагі і рэкамендацыі рабіліся аўтару не толькі з ідэалагічных меркаванняў, але і з чыста кінематаграфічнага пункту гледжання, што ў падобных выпадках не псавала твор, а, наадварот, спрыяла яго ўдасканаленню. Такім чынам у выніку праходжання праз жорны сцэнарна-рэдакцыйных калегій і мастацкіх саветаў адзін і той жа сцэнарый мог нешта безумоўна страціць, але здаралася — і нешта прыдбаць.

Заўважым таксама, што «калектыўнасць» кінамастацтва асабліва яскрава прасочваецца на прыкладах стварэння практычна ўсіх карцін па быкаўскіх сцэнарыях перыяду 1960–1970-х гадоў. Па сутнасці, пісьменнік апынуўся закладнікам савецкай кінематаграфічнай сістэмы, у якой панавала няўмольная цэнзура, прычым у нечым нават яшчэ больш пільная і жорсткая за цэнзуру ўласна літаратурную. Адзіная яе «вартасць» — звычайна яна пакідала пасля сябе сляды — у выглядзе пратаколаў, пастаноў, заключэнняў, рэкамендацый і г. д., аналізуючы якія можна зразумець, чаму практычна ўсе фільмы «па Быкаву» аказаліся настолькі не падобнымі да быкаўскай прозы.

---

[1] З ліста без даты. Аўтограф. Арыгінал. Архіў Л. Мартынюка.

[2] Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 181.

**Третья ракета**
*Киносценарий* (стар. 5)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу, які захоўваецца ў фондзе к/с «Беларусьфільм»: БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 68–164.

Датуецца сакавіком 1962 г.

Гэта першы вопыт працы В. Быкава ў кінематографе. Перадгісторыя напісання сцэнарыя «Третьей ракеты» вядомая са слоў самога аўтара: «Нехта параіў студыі новую аповесьць Быкава — амаль гатовы сцэнар[1]. Так сказалі і мне. Трэба толькі папрацаваць з рэжысэрам-пастаноўшчыкам, якім ужо прызначаны малады выпускнік ВГІКу Рычард Віктараў[2]. У тых жа Каралішчавічах ладкуецца сэмінар сцэнарыстаў, прыедуць спэцыялісты з Масквы, можна будзе канчаткова зладкаваць і сцэнар. Я ўзяў у рэдакцыі за свой кошт адпачынак і паехаў у Менск[3].

Кіно для мяне было справай новаю, вопыту ніякога. Але на студыі было столькі разумных спэцыялістаў, таленавітых рэжысэраў, што толькі слухай і вучыся. Паводле тых парадаў і пад кіраўніцтвам рэжысэра напісаў штось малапрыгоднае ў літаратурным сэнсе, што называлася сцэнарам, а болей нагадвала сумніўны канспэкт празаічнага твору. Пайшлі доўгія шэрагі паседжаньняў, абмеркаваньняў, кансультацыяў, зацьверджаньняў. Пісалася і перапісвалася — спачатку ў Менску, затым у Каралішчавічах. [...]

Пакуль доўжыўся падрыхтоўчы працэс, рэжысэр-пастаноўшчык схуднеў, падобна, пачаў вар'яцець, ня ведаў, на якім сьвеце жыве. Аўтар сцэнару таксама. Просьценькая сцэнка салдацкага побыту ў акопе ператваралася ў прадмет складанага эстэтыка-палітычнага дыспуту — як было, як трэба, як ня трэба і што скажа начальства. Мы перасталі лічыць напісаныя і адкінутыя варыянты сцэнару, спыніліся нарэшце на апошнім, прынятым умоўна. [...]

---

[1] Аповесць «Трэцяя ракета» прапанаваў для экранізацыі літаратурны крытык Р. Бярозкін, у сувязі з гэтым начальнік сцэнарнага аддзела М. Лужанін звярнуўся да дырэктара к/с «Беларусьфільм» І. Дорскага з просьбай адзначыць Р. Бярозкіна грашовай прэміяй. (Паводле ліста М. Лужаніна да І. Дорскага ад 21 сакавіка 1962 г. Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 54.)

[2] Віктараў Рычард Мікалаевіч (1929–1983) — рэжысёр, сцэнарыст; заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1974); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя братоў Васільевых (1977), Дзяржаўнай прэміі СССР (1982).

[3] І. Дорскі запрашаў В. Быкава прыехаць у Мінск 25 студзеня 1962 г. для перамоў пра экранізацыю «Трэцяй ракеты». (Паводле ліста І. Дорскага да В. Быкава ад 20 студз. 1962 г. Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 67.) Семінар кінадраматургаў праходзіў у Доме творчасці СП БССР «Каралішчавічы» 6 лютага — 3 сакавіка 1962 г.

Агульнымі высілкамі фільм быў зьняты. Атрымаўся так сабе, шэранькі сераднячок. Здымаўся дапатопнай апаратурай, на бляклую чорна-белую плёнку шосткінскай вытворчасьці. Затое ва ўсіх адносінах правільны: гераічны, патрыятычны. З дадатных герояў можна было браць прыклад, адмоўныя асуджаліся»[1].

Праўда, яшчэ ў 1963 г. В. Быкаў наступным чынам характарызаваў тую карціну ў лісце да паэткі Л. Геніюш: «...хоць першы блін («Ракета») атрымаўся не дужа ўдалы і дагэтуль яго ўсё лаюць у Маскве амаль на кожным вялікім мерапрыемстве, а таксама ў газетах. Кажуць, што атрымаўся пацыфізм і камернасць; мне ж недахопы фільма (а іх багата) здаюцца ў іншым. Ну, але ліха з імі»[2].

Тагачасная кінакрытыка сапраўды ўпікала аўтараў «Третьей ракеты» за падобныя «істотныя недахопы». Так, напрыклад, В. Говар пісаў: «Перамясціліся некаторыя акцэнты, і расказ аб мужнасці савецкіх людзей у барацьбе з фашызмам адышоў на другі план, аўтары фільма разглядаюць усе падзеі з абстрактных гуманістычных пазіцый»[3]. У сваю чаргу ў лісце да Н. Гілевіча[4] Быкаў пісаў: «...на фільм гэты я ўжо даўно плюнуў, як кажуць. Не па-мойму ён зроблен, шмат што не так, дрэнна, слаба — чорт з ім, з фільмам. Гэта балаган, а не мастацтва — кіно. У літаратуры, нягледзячы на ўсё, усё больш твайго, аўтарскага, а кіно — дрэнь»[5].

Сцэнарый, згодна з дамовай ад 31 студзеня 1962 г.[6], павінен быў быць гатовы 1 чэрвеня 1962 г., але быў здадзены В. Быкавым яшчэ 9 сакавіка[7] і праз чатыры дні прыняты мастацкім саветам «Беларусьфільма» ды накіраваны для зацвярджэння ў Міністэрстве культуры БССР. Праўда, яшчэ падчас пасяджэння мастацкага савета

---

[1] Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 180, 181.

[2] З ліста ад 14 снежня 1963 г. Аўтограф. Арыгінал. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНБ НАНБ). Ф. 31. Воп. 1. Адз. зах. 299. Арк. 3.

[3] Говар В. Суд высокай чалавечнасці // Чырвоная змена. 1963. 28 верасня.

[4] Гілевіч Ніл Сымонавіч (нар. у 1931) — беларускі паэт, фальклярыст, літаратуразнавец, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; народны паэт Беларусі (1991).

[5] З ліста ад 8 верасня 1963 г. Арыгінал. Архіў Н. Гілевіча.

[6] Згодна з «Типовым сценарным договором (для художественных фильмов)» ад 31 студзеня 1962 г. за подпісамі І. Дорскага і В. Быкава пісьменніку выплочвалася ўзнагарода ў памеры чатырох тысяч рублёў (БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 65–66), але пазней, 13 сакавіка 1962 г., быў падпісаны новы «Типовой сценарный договор (для художественных фильмов)» (за подпісамі таксама І. Дорскага і В. Быкава), у якім фігуравала іншая сума — шэсць тысяч (БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 55–56).

[7] Паводле «Учетной карточки». БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 1.

неаднаразова гучалі перасцярогі ў «натуралізме» і «пацыфізме», што даволі дзіўна, паколькі кіраўніцтва СССР (ЦК КПСС разам з саюзным КДБ) угледзела матывы «пацыфізма-натуралізма» ў творчасці В. Быкава толькі ў 1966 г. — у сувязі з выхадам на старонках «Нового мира» аповесці «Мёртвым не баліць», беларускія ж кінематаграфісты праявілі «зайздросную пільнасць» на чатыры гады раней, яшчэ пры абмеркаванні літаратурнага сцэнарыя «Третья ракета»:

«ФРАЙМАН[1] — Сценарный отдел рекомендует запустить сценарий в режиссерскую разработку. Сценарий создан по очень интересной повести. Сценарий своеобразно, интересно, правдиво рассказывает об одном маленьком эпизоде, в котором раскрывается большая человеческая тема. Достоинство сценария в том, что в нем очень ощутимы люди — герои повествования. Они нарисованы с очень точным знанием жизни. Рассказ трагический, но в этом героизме — правда, суровая и мужественная. Сценарий по проблеме очень человечен и с беспощадной ненавистью разоблачает подлость. Этим он нам близок и современен. Фильм на военном материале будет звучать по-новому. Это фильм о солдатах. Они очень хорошо показаны, раскрыты. [...]

КОРШ-САБЛИН[2] — Есть 2 вопроса: 1. Все ли написанное воспринимается как достоинство? Все ли нормально? Надо ли так делать режиссерский сценарий, не внося поправок? 2. Дорабатывать ли литературный сценарий или пускать в режиссерскую разработку?

Меня насторожило несколько вещей. Есть небольшой перебор натурализма — сказал Фрайман. Литературное произведение нельзя целиком переносить на экран. Здесь очень много натуралистических эпизодов. [...] Правдиво звучит при чтении, а с экрана правдивость переходит в другое качество. Я чувствую интонацию Ремарка[3] — ужасы войны. А это уже переплетается с пацифизмом. Эпизод с немцем. Ситуация интересная. Но надо абсолютно точно определить отношение к немцу. [...]

ЛУЖАНИН[4] — Образ Лозняка должен быть усилен бытовыми деталями, чтобы нам ясно было, кто же такой Лозняк. И другим

---

[1] Фрайман Міхаіл Паўлавіч (нар. у 1921) — беларускі сцэнарыст; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974). З 1948 г. — старшы рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі к/с «Беларусьфільм».

[2] Корш-Саблін Уладзімір Уладзіміравіч (1900–1974) — беларускі рэжысёр; народны артыст СССР (1969); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950), Дзяржаўнай прэміі БССР (1967). З 1926 г. — на к/ф-цы «Советская Беларусь» трэста «Белгоскино»; у 1945–1960, 1969–1974 гг. — мастацкі кіраўнік к/с «Беларусьфільм»; з 1957 г. — старшыня аргбюро СРК БССР; з 1965 г. — першы сакратар праўлення СК БССР.

[3] Рэмарк Эрых Марыя (1898–1970) — нямецкі пісьменнік, прадстаўнік літаратуры «страчанага пакалення», якая ўзнікла ў 1920-я гг. пасля трагічнага вопыту Першай сусветнай вайны.

[4] На гэтым пасяджэнні М. Лужанін выконваў абавязкі старшыні мастацкага савета.

дать такие детали. Оставить дикторский текст только в необходимых местах. Разговор о Ремарке возникает именно из-за незрелости дикторского текста. Натурализм — это дело режиссера. О немце. Образ в некоторой степени заданный. Но враг умирающий — уже не враг. Отношение Лозняка к немцу должно быть более тактичным. Отношение Лозняка к Люсе — это любовь. Своим приходом и своей гибелью Люся стала товарищем. И Лозняк мстит и за Люсю, и за остальных товарищей. [...]».[1]

Між тым прэтэнзіі адносна «пацыфізма-натуралізма» будуць галоўнымі і ў прынятай услед за тым пастанове калегіі Міністэрства культуры:

«1. Принять представленный киностудией “Беларусьфильм” литературный сценарий В. Быкова “Третья ракета”.

2. Рекомендовать киностудии при разработке режиссерского сценария: найти детали, более четко раскрывающие биографии главных героев фильма; устранить элементы натурализма в отдельных эпизодах; в диалогах исключить возможное проявление пацифистских настроений и сократить до минимума дикторский текст[2].

3. Считать целесообразной консультацию по сценарию у военных специалистов»[3].

Адзначым, што ў справе матэрыялаў па фільму «Третья ракета» захаваліся два машынапісы літаратурнага сцэнарыя — абодва маюць аднолькавую колькасць старонак (96) і адрозніваюцца толькі тым, што

---

[1] Паводле «Протокола заседания художественного совета» ад 13 сак. 1962 г. Машынапіс. Копія за подпісам Р. Раманоўскай. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 57, 58–60.

[2] Згодна са «Справкой о выполнении решений коллегии Министерства культуры БССР по сценариям, запущенным в производство в 1962 г.» падчас здымак фільма «Третья ракета» «учтены следующие рекомендации коллегии Министерства культуры БССР. [...]

б) В отдельных эпизодах устранены элементы натурализма.

Это замечание будет также учтено при монтаже картины.

д) Диалог ряда сцен пересмотрены с целью уточнения взаимоотношений действующих лиц» (Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 40).

[3] Паводле «Постановления коллегии Министерства культуры Белорусской ССР № 30 от 19 апреля 1962 г. о литературном киносценарии В. Быкова “Третья ракета”» за подпісам старшыні калегіі міністра культуры БССР Г. Кісялёва. Машынапіс на афіцыйным бланку з гербам БССР, уверсе: «Министерство культуры Белорусской ССР»; ніжэй службовая памета ад рукі: «Сценарный отдел, т. Лужанину А. А. *И. Дорский*»; унізе штамп: «Кінастудыя “БЕЛАРУСЬФІЛЬМ” Атрымана 20/IV. Уваходзячы № 728». Подпісы — аўтограф. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 52.

ў адным машынапісе[1] рукой В. Быкава зроблены алоўкам нешматлікія праўкі, якія носяць стылёва-лексічны характар і былі ўлічаны ў другім машынапісе[2]. Да істотных змяненняў можна аднесці наступныя:

Стар. 8. *Иди сюда. Другую работу дам.* — У першай рэдакцыі далей ідзе, але закрэслена: «Малость почище».

Стар. 37. *А-а! Ты-ты! Заряжай!* — У першай рэдакцыі: «— А-а! Трусишь! Заряжай!», але папраўлена.

Стар. 43. *...познав ее во всей жестокости, мы проклинаем ее.* — У першай рэдакцыі: «Познав ее во всей жестокости, гадости и радости, мы проклинаем ее», але папраўлена.

У далейшым мастацкім саветам «Беларусьфільма» абмяркоўваўся ўжо рэжысёрскі сцэнарый, аднак, як бачна з пратакола чарговага пасяджэння, прысутныя зноў і зноў вярталіся да першакрыніцы — літаратурнага сцэнарыя В. Быкава.

Рабочая версія фільма была гатовая на пачатку 1963 г. Яна таксама абмяркоўвалася падчас пасяджэння мастацкага савета «Беларусьфільма». Хаця гутарка ішла, уласна кажучы, пра кінематаграфічны прадукт, аднак прэтэнзіі тычыліся, па сутнасці, зноў жа працы сцэнарыста В. Быкава, — так, да прыкладу, К. Губарэвіч[3] убачыў у «Третьей ракете» як «ремаркизм, но в лучшем смысле», так і «ремаркизм худшего толка»:

«[...] ГУБАРЕВИЧ — Картина, конечно, получается, и будет интересная и своеобразная. И автор и режиссер скрупулезно исследовали быт войны. И меня не смущает, что вначале мы неспеша всматриваемся в лицо каждого человека.

Смущает несколько, когда начинается закадровый голос Лозняка, и до самого него доходит камера позже.

Для нашего кино это новая струя. Здесь есть ремаркизм, но в лучшем смысле.

Что меня не устраивает. Жаль, что в этом материале ушла тема Люси. По повести мы помним, какой свет она вносила. Была тема большой нераскрытой любви и Лозняка, и Кривенка. А здесь верх взял Лешка. И лирическая тема ушла в песок.

Смущает увлечение красотой смерти. И нужно ли показывать каждую смерть? Это уже ремаркизм худшего толка.

---

[1] Машынапіс. Аўтарызаваная копія з нязначнымі праўкамі алоўкам. Злева ўверсе на першай стар. памета ад рукі: «7/III.62 г.». БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 165–260.

[2] Машынапіс. Копія. На першай стар.: «ВАСИЛИЙ БЫКОВ. ТРЕТЬЯ РАКЕТА (киносценарий)»; унізе: «1962 год “Беларусьфильм”». БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 68–164.

[3] Губарэвіч Кастусь (Канстанцін Лявонцьевіч; 1907–1987) — беларускі драматург, сцэнарыст, крытык, рэдактар к/с «Беларусьфільм»; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1966); лаўрэат прэміі ЛКСМБ (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

В отношении стрельбы. Здесь секрет режиссерского приема. В сочетании со звуком этот прием достигнет цели. Это нагнетает такую экспрессию, что этот момент может явиться кульминацией картины. Кусок этой пальбы — тяжелейший солдатский труд.

Я не понял, что за блик в финале? Это солнце? Непонятно. А есть прекрасный кадр для концовки: он лежит и глазами прислушивается к победному наступлению.

МАКАЁНОК[1] — [...] Фильм не о том, что как это было. Это рассказ о том, что я уже пережил во время той войны. Я запомнил не бой, не гром пушек, а тех людей, к которым я по-разному относился. И это настроение, давно мною пережитое, должно быть в закадровом голосе. Пока этого не хватает. [...] Мне все время хочется внимательно присмотреться к людям. Этого не получилось. Длинноты есть во многих кадрах. Об эпизоде со стрельбой. Звук во многом восполнит, но все-таки длинно. Сейчас это просто работа. А должна быть работа на предельном напряжении нервов. После этого я ожидал увидеть человека в полном изнеможении. А этого нет. Он сидит абсолютно спокойно. Может быть, можно доснять крупный план?

Музыка тут очень нужна. Не хватает интима. [...] Я не говорил о достоинствах картины. Они говорят сами за себя.

ГЛЕБОВ[2] — [...] Я не специалист в кино и не обращаю внимания на снопы, стоящие на песке. Но меня по-настоящему тронуло это желание авторов попытаться рассказать правду. Я не понимаю, где кадр длиннее или короче, но я вижу правду, трогательную до слезы. И это очень трудно сделать. Я иногда чувствую себя на месте этих людей. [...]»[3].

Але прэтэнзіі да фільма (а, па сутнасці, да літаратурнага сцэнарыя) не скончыліся: менш чым праз месяц аўтараў «Третьей ракеты» ўпікалі не толькі за «натуралізм» і «асуджанасць» (якую, між іншым, не заўважалі раней) — сярод членаў мастацкага савета знайшліся і тыя, хто ўвогуле не зразумеў ідэі фільма...

У выніку меркаванне і заўвагі мастацкага савета былі абагульнены ў наступным заключэнні:

«Просмотрев на одной пленке законченный производством фильм “ТРЕТЬЯ РАКЕТА”, художественный совет студии считает, что студией создано интересное, волнующее произведение, по-новому рас-

---

[1] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982) — беларускі драматург; народны пісьменнік БССР (1977).

[2] Глебаў Яўген Аляксандравіч (1929–2000) — беларускі кампазітар; народны артыст СССР (1984).

[3] Паводле «Протокола заседания художественного Совета киностудии “Беларусьфильм”» ад 7 лютага 1963 г. Машынапіс. Копія за подпісам Р. Раманоўскай. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 32–33, 34, 35, 36, 37, 38–39.

крывающее тему войны, тему мужества и героизма простых советских солдат.

Рассказ о трагической истории, происшедшей в небольшом фронтовом окопе в течение одних суток, впечатляет своей сильной глубокой правдой увиденных обстоятельств войны. В этом главное достоинство фильма, причина его огромного эмоционального воздействия.

Фильм привлекает интересными, точными и глубокими характеристиками героев — людей с разными, неповторимыми судьбами. Рядовые труженики войны, они проявляют невиданное мужество, отдавая свою жизнь на алтарь победы. Отчетливо ощутимо стремление глубоко проникнуть в духовную жизнь солдат, увидеть в их характерах то, что рождало героизм. Крупным планом как бы выхвачено то, что произошло в окопе в течение суток неимоверно тяжелых испытаний, крупным планом нам дано увидеть все то, что произошло с людьми, понять, какие они, почему они себя так вели. Вся художественная манера фильма отмечена стремлением попристальнее вглядеться в человека, в мир его чувств и мыслей.

Художественный совет считает, что режиссер фильма Р. ВИКТОРОВ интересно себя проявил в этой работе, сделав определенный шаг вперед в своей творческой биографии.

В кинематографической интерпретации литературного материала режиссер остается верным авторскому замыслу, его сущности и своеобразию. Простота, суровая правда кинематографического рассказа соответствует духу литературной первоосновы. Выбор художественных средств подчинен главному: раскрытию нравственного величия простого человека, широты его души.

Фильм отмечен определенными актерскими удачами. Правдив и прост образ командира орудия, бывшего колхозника, бывалого, рассудительного сержанта Желтых в исполнении Г. Жженова. Запоминается наводчик якут Петров, интересный образ которого создает артист С. Федотов. Сложный противоречивый образ бывшего студента Лукьянова удалось создать артисту И. Комарову.

Удивительную душевную чистоту, честность, непримиримость и беспощадность к подлости и предательству раскрывает арт. С. Любшин в образе Лозняка, главного героя фильма, от лица которого ведется киноповествование.

Особо следует отметить интересное изобразительное решение фильма, найденное молодыми операторами А. Кирилловым и Н. Хубовым, художниками В. Дементьевым и Е. Игнатьевым.

Точность в изображении окопного быта, выразительность батальных сцен, тонкость в обрисовке переживаний героев, строгая и сдержанная манера в выборе художественных средств, лирическая взволнованность, предельная правда во всем — делают фильм художественно цельным и глубоком эмоциональным.

Художественный совет студии принимает фильм. В целях устранения допущенных в фильме отдельных мелких недочетов, снижающих

его художественную ценность, предлагается при второй перезаписи учесть следующее:

1. Проверить и исправить звуковое оформление ряда эпизодов, сделав его более точным, естественным и эмоциональным [...].

2. Продумать в отдельных местах закадровый голос, убрав его в ряде мест, где он совершенно излишен и не дополняет изображение (рассуждения Лозняка о несправедливости на войне, его мысли о Люсе, внутренний монолог в финальном кадре фильма и т. д.).

3. Для усиления финала фильма рекомендовать исключение финального кадра "с солнцем" и закадрового текста»[1].

Аднак у маскоўскіх кіначыноўнікаў знайшлося значна больш прэтэнзій да карціны, прычым палова з іх уваходзіла ў відавочную супярэчнасць з літаратурнай першакрыніцай — аповесцю «Трэцяя ракета» і мела адкрыта ідэалагічна-прапагандысцкую накіраванасць:

«22 марта 1963 г.
№ 1/843

Министру культуры БССР
тов. Киселеву Г. Я.

Копия: директору
киностудии
"Беларусьфильм"
тов. Дорскому И. Л.

Главное управление по производству фильмов, просмотрев законченный производством и принятый Министерством культуры БССР фильм "Третья ракета", считает, что над фильмом должна быть проделана дополнительная работа.

В фильме имеется целый ряд реплик и рассуждений по поводу жестокости и несправедливости войн. При этом не сделано отчетливого различия между "войнами".

В фильме ясно присутствуют некоторые мотивы обреченности героев, в результате этого моральная стойкость советского человека, способного выдержать любое испытание, — несколько утрачивает свою очевидность и художественную выразительность. В фильме имеются неоднократные указания на то, что действие происходит в 1944 г. Вместе с тем в фильме отсутствуют конкретно исторические приметы общей военной атмосферы того времени, когда по существу дело шло на победу. Рассказ ведется об одном тяжелом бое и одной огневой точке и при этом показано превосходящее техническое оснащение противника.

---

[1] «Заключение художественного совета киностудии "Беларусьфильм"» ад 1 сак. 1963 г. Машынапіс. Копія. БДАМЛІМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 12–14.

Учитывая это обстоятельство, Главное управление считает необходимым исключить из фильма указание на время действия.

Напряженному драматическому действию фильма и его основному замыслу мало соответствуют невыразительные однотонные внутренние монологи основового героя — Лозника[1]. Кроме того, не очень точный по идейной направленности текст плохо произносится актером.

Главное управление по производству фильмов провело детальное обсуждение картины совместно с директором студии Дорским и авторами фильма — писателем В. Быковым и режиссером Р. Викторовым.

По согласованию с авторами фильма Главное управление рекомендует внести в фильм следующие исправления:

1. В начале фильма поставить титр, свидетельствующий о том, что фильм создается в память тех, кто героически погиб, защищая социалистическое Отечество.

2. Изменить смысл сцены прихода комбата с приказом о передислокации пушки.

Из этой сцены следует исключить мотив об извечном споре на войне между командиром и солдатом и пререкания в связи с этим между командиром орудия Желтых и комбатом.

В этой сцене должно быть ясно, что комбат отдает приказание о конкретном боевом задании, что героям фильма предстоит совершить чрезвычайно важное и необходимое для исхода сражения дело. Тем самым следует подчеркнуть смысл о необходимости подвига героев, который в дальнейшем они совершают.

3. Сцену ухода Желтых в штаб после объяснения с комбатом следует переосмыслить, исключив из нее мотив того, что Желтых отправился в штаб, чтобы обжаловать несправедливый приказ комбата.

4. В эпизоде танковой атаки исключить план убегающей и отступающей пехоты.

5. Переосмыслить разговор Лозника и Лукьянова по поводу войны, обрушивающей на каждого человека страдания, в том числе на всех немцев. В эту сцену следует, на наш взгляд, ввести закадровый голос Лозника, который противоречил бы Лукьянову, был принципиально не согласен с таким неверным утверждением своего товарища.

6. Следует изменить смысл рассказа Желтых о погибших родственниках в предыдущих войнах. В этот рассказ должны быть внесены слова, подчеркивающие необходимость и важность той борьбы, которую ведут советские воины против фашизма.

7. В кадре, показывающем Петрова, скорбящего над убитым командиром, заменить текст закадрового голоса Лозника. В новой редакции текста должна быть проведена мысль о том, что присутствие орудийного расчета на этом пятачке земли крайне необходимо. Это

---

[1] Менавіта так у дакуменце.

даст возможность подчеркнуть осмысленность подвига и его военную целесообразность.

8. В сцене исповеди умирающего Лукьянова следует исключить слова о том, что все бессмысленно.

9. В сцене встречи героев с умирающим немцем следует изменить надпись на фотографии немца. Здесь не следует уточнять время действия событий.

10. В фильме следует переработать финал в соответствии с договоренностью съемочной группы и Главного управления.

В финале должна быть усилена мысль о том, что борьба продолжается, что все происшедшие трагические события не убили в герое волю к победе и что погибшие сделали необходимое для победы дело. В финале также должно быть усилено решение темы победы в звуке.

11. Нуждаются в перетонировке все закадровые реплики Лозника, невыразительно прочитанные актером при первой записи.

Зам. Начальника Главного управления
по производству фильмов *В. Разумовский*

Член сценарно-редакционной коллегии *Т. Юренева*»[1].

Аб тым, што на «Беларусьфильме» гэтыя рэкамендацыі не былі пакінуты без увагі, сведчыць наступны дакумент:

«Апрель 1964 г.

Заместителю председателя
Государственного комитета
Совета Министров СССР
по кинематографии
тов. БАСКАКОВУ В. Е.

[...] считаем необходимым напомнить о том, что фильм сдавался дважды.

По первому варианту Главным управлением по производству фильмов были даны существенные поправки, которые полностью были выполнены.

Как доказательство этому приводим пункты замечаний, указанных в письме от 22/III—1963 г. за № 1/843, и их выполнение группой:

“...Главное управление по производству фильмов провело детальное обсуждение картины совместно с директором студии Дорским

[1] Машынапіс на афіцыйным бланку з гербам СССР, уверсе: «Министерство культуры СССР Главное управление по производству фильмов». На першай стар. уверсе службовая памета ад рукі: «Т. Лужанину А. А. для исполнения [*подпіс неразб.*]»; унізе штамп: «Кінастудыя “БЕЛАРУСЬФІЛЬМ” Атрымана 26/III. Уваходзячы № 351». Подпісы — аўтограф. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 7–9.

и авторами фильма — писателем В. Быковым и режиссером Р. Викторовым.

По согласованию с авторами фильма Главное управление рекомендует внести в фильм следующие исправления:

1. В начале фильм поставить титр, свидетельствующий о том, что фильм создается в память о тех, кто героически погиб, защищая социалистическое отечество.

Сделано посвящение, которое идет в надписи и которое читает голос Левитана:

“Вам, живущим под солнцем с верою в счастье и мир, о тех, кто в смертельной борьбе с фашизмом выстоял и победил”.

2. Изменить смысл сцены прихода комбата с приказом о передислокации пушки.

Из этой сцены следует исключить мотив об извечном споре на войне между командиром и солдатом и пререкания в связи с этим между командиром орудия Желтых и комбатом.

В этой сцене должно быть ясно, что комбат отдает приказание о конкретном боевом задании, что героям фильма предстоит совершить чрезвычайно важное и необходимое для исхода сражения дело. Тем самым следует подчеркнуть смысл о необходимости подвига героев, который в дальнейшем они совершают.

Сцена перемонтирована, переозвучена и вошла в последний вариант следующим диалогом (окончание сцены):

К о м б а т: — ...и учтите, участок самый пробойный. Чтоб дорогу мне закупорили, как бутылку!

Ж е л т ы х: — А что, ожидается что-нибудь?

К о м б а т: — Возможно. И знайте, хлопцы, от вас многое будет зависеть.

Ж е л т ы х: — Ясно!

Комбат уходит.

3. Сцену ухода Желтых в штаб после объяснения с комбатом следует переосмыслить, исключив из нее мотив того, что Желтых отправился в штаб, чтобы обжаловать несправедливый приказ комбата.

Желтых говорит о том, что он идет к взводному, чтобы сообщить о дислокации пушки.

4. В эпизоде танковой атаки исключить план убегающей и отступающей пехоты.

Исключено три плана.

5. Переосмыслить разговор Лозняка и Лукьянова по поводу войны, обрушивающей на каждого человека страдания, в том числе на всех немцев. В эту сцену следует, на наш взгляд, ввести закадровый голос Лозняка, который противоречил бы Лукьянова, был принципиально не согласен с таким неверным утверждением своего товарища.

Вырезана половина сцены. Весь разговор о немцах вообще выброшен.

6. Следует изменить смысл рассказа Желтых о погибших родственниках в предыдущих войнах. В этот рассказ должны быть внесены слова, подчеркивающие необходимость и важность той борьбы, которую ведут советские воины против фашизма.

Сцена перемонтирована и переозвучена.

Желтых в конце сцены говорит так:

"...Теперь уж ничего не скажешь — если мы этот фашизм не уничтожили, то кто ж тогда?!"

7. В кадре, показывающем Петрова, скорбящего над убитым командиром, заменить текст закадрового голоса Лозняка. В новой редакции текста должна быть проведена мысль о том, что присутствие орудийного расчета на этом пятачке земли крайне необходимо. Это даст возможность подчеркнуть осмысленность подвига и его военную целесообразность.

Текст заменен на следующий:

Л о з н я к: — Нужно во что бы то ни стало держать дорогу, нужно не дать им пройти! Не дать им пройти!..

8. В сцене исповеди умирающего Лукьянова следует исключить слова о том, что все бессмысленно.

Этот текст выброшен.

9. В сцене встречи героев с умирающим немцем следует изменить надпись на фотографии немца. Здесь не следует уточнять время действия событий.

Сцена вообще сокращена, выброшена надпись на фотографии и голос Лозняка. В картине вообще время действия не указано.

10. В фильме следует переработать финал в соответствии с договоренностью съемочной группы и Главного управления.

В финале должна быть усилена мысль о том, что борьба продолжается, что все происшедшие трагические события не убили в герое волю к победе и что погибшие сделали необходимое для победы дело. В финале также должно быть усилено решение темы победы в звуке.

Вставлена сцена с нашими солдатами, которые которые видят героизм сорокапятчиков и высоко оценивают его. Герой поднимается из окопа и стоит, смотря на наступление наших войск. На этом изображении снова надпись — посвящение, которое является как бы обрамлением фильма.

11. Нуждаются в перетонировке все закадровые реплики Лозняка, невыразительно прочитанные актером при первой записи.

Все закадровые реплики были перетонированы, а три четверти их было вообще выброшено.

Кроме того, сама группа кое-что изменила и дополнила для усиления идейного звучания фильма.

[...]

Директор киностудии
"Беларусьфильм" (И. Дорский)»[1].

Невыпадкова дырэктар карціны С. Тульман і Р. Віктараў пасля тлумачылі: «В монтажно-тонировочном периоде, особенно к концу его, возникла необходимость отказаться еще от ряда рассуждений героев. Это было сделано в связи с замечаниями Министерства культуры БССР и Главного управления по производству фильмов Министерства культуры СССР в целях более четкой идейной направленности фильма»[2].

Фільм, які быў здадзены 28 лютага 1963 г.[3] і беларускай кінастудыяй прыняты толькі 24 ліпеня 1963 г., затым быў прадстаўлены Міністэрству культуры БССР і тады ж атрымаў дазвол на выпуск[4]. Выйшаў на экран 23 верасня 1963 г.[5]

Ён атрымаў дзве першыя прэміі на IV кінафестывалі Прыбалтыкі і Беларусі (Мінск, 1964) — дыпломы за лепшы сцэнарый[6] і аператарам А. Кірылаву і М. Хубаву — за лепшае выяўленчае майстэрства.

---

[1] Машынапіс. Копія на афіцыйным бланку, уверсе: «Министерство культуры БССР киностудия "Беларусьфильм"». БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 2–5.

[2] З «Объяснительной записки к производственному отчету по фильму "Третья ракета"» за подпісамі С. Тульмана і Р. Віктарава. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НА РБ). Ф. 969. Воп. 2. Адз. зах. 10. Арк. 14.

[3] Паводле «Калькуляции по художественному и мультипликационному кинофильмам и для фильмов-спектаклей». НА РБ. Ф. 969. Воп. 2. Адз. зах. 10. Арк. 1.

[4] Паводле «Акта о выпуске на экраны республики кинофильма "Третья ракета" (дубляж)». Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 371. Арк. 17.

[5] Тут і далей дата выхаду на экран падаецца паводле: Все белорусские фильмы: Каталог-справочник. Т. 1. Игровое кино (1926–1970); Т. 2. Игровое кино (1971–1983) / авт.-сост. И. Авдеев, Л. Зайцева; науч. ред. А. В. Красинский. Мінск: Беларус. навука, 1996, 2000.

[6] «Диплом Союза работников кинематографии СССР за сценарий "Третья ракета" на смотре-соревновании кинофильмов производства киностудий Литовской, Эстонской и Белорусской ССР» за подпісам старшыні журы Ю. Ягорава і членаў журы ад 6 крас. 1964 г. Арыгінал. Музей Максіма Багдановіча (Гродна). КП 556/42.

*Рэцэнзіі*: Михайлова И. Герои не умирают // Гродненская правда. 1963. 10 сент.; Пчелинцев В. Вспыхнула «Третья ракета» // Знамя юности. 1963. 11 сент.; Климашевская И. Первая встреча, первые впечатления // Советская Белоруссия. 1963. 12 сент.; Фуриков Л. О времени суровом // Советская Россия. 1963. 17 сент.; Муратов Л. Экран говорит: войне — нет! // Вечерний Ленинград. 1963. 23 сент.; Лазарев Л. На безымянной высоте // Известия. 1963. 28 сент.; Кузьміцкая Н. Салдацкі лёс // Настаўніцкая газета. 1963. 28 верас.; Говар В. Суд высокай чалавечнасці // Чырвоная змена. 1963. 28 верас.; Ратнікаў Г. Побач са смерцю // Мінская праўда. 1963. 29 верас.; Виногура С. Путь к победе не прям // Знамя юности. 1963. 2 окт.; Смаль В. Лёс чалавечы, лёс народны // Звязда. 1963. 6 кастр.; Бяляўскі М. Праўда вялікая і малая // Літаратура і мастацтва. 1963. 15 кастр.; Разумный В. Герой рождается в коллективе // Советская культура. 1963. 31 окт.; Черномыс А., Федоров В. Так в чем же красота подвига? // Красная звезда. 1964. 29 янв.; Миронов Л. Правда подвига // Советский экран. 1964. № 6. С. 20; Разумный В. Герой и героическое // Советская культура. 1965. 13 апр.; Михайлова С. И существует объединение // Искусство кино. 1967. № 7. С. 99; Міхайлава С. Пошукі і здзяйсненні // Маладосць. 1968. № 1. С. 109–110; Бондарева Е. Повести и фильмы: Произведения В. Быкова на экране // Неман. 1977. № 10. С. 159; Зеленко Н. Актер ведет разведку // Экран. 1964. М., 1965. С. 145–147; История белорусского кино: в 2 т. Т. 2. Минск, 1970. С. 155–157; История советского кино: в 4 т. Т. 4. М., 1978. С. 175–176; Смаль В. Человек. Война. Подвиг. Минск, 1979. С. 70–71; Ратников Г. На экране — Великая Отечественная // Современное белорусское кино. Минск, 1985. С. 110–111; Бондарава Е. Кінематограф і літаратура: Творы беларускіх пісьменнікаў на экране. Мінск, 1993. С. 84–85.

**Альпийская баллада**

*Литературный сценарий* (стар. 76)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу, які захоўваецца ў фондзе кінастудыі «Беларусьфільм»: БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 402. Арк. 179–264.

Датуецца паводле паметы ад рукі на апошнім аркушы машынапісу: «8/III–64 г.».

Прапанову напісаць кінасцэнарый па матывах аповесці «Альпійская балада» В. Быкаў атрымаў напрыканцы 1963 г. — у лістападзе ён пісаў Н. Гілевічу: «Пісаць прозу пакуль не збіраюся. Збіраюся з 12 лістапада ў Каралішчавічы пісаць сцэнарый»[1]. А ў снежні паведамляў Л. Геніюш: «Нядаўна прыехаў з Мінска, дзе прабыў тыдзень у Каралішчавічах на семінары кінадраматургаў. Мінская студыя збіраецца зрабіць карціну па новай аповесці, ну і просіць мяне напісаць сцэнарый. Відаць, так і зраблю [...]»[2]. І ўжо вясной 1964 г.: «Я ездзіў на кінастудыю, выклікалі на рэдакцыйную калегію. Хочуць ставіць фільм па баладзе, ужо ёсць рэжысёр, напісаў я і сцэнарый, хоць яшчэ не ўсё добра ў ім. Я думаю, няхай робяць, характар Івана мне таксама да спадобы, хоць я і не меў на ўвазе ствараць вобраз святога, без страху і дакору рыцара. Гэта просты хлопец, які пражыў нялюдскае жыццё (25 год), але які захаваў у сабе ўсё самае высакароднае, хоць яно ў яго і не ляжыць на плячах і не блішчыць»[3].

Пазней пісьменнік наступным чынам прыгадваў тыя даўнія падзеі: «...вядома, напомніла пра сябе Беларуская кінастудыя — сказалі, што можна зьняць вельмі прыгожы, рамантычна-патрыятычны фільм міжнароднага гучаньня. Я не знайшоў аргумэнтаў супроць. Мабыць, ранейшыя пакуты з “Трэцяй ракетай” пачалі забывацца, думалася, тут будзе інакш. [...]

Як пісаць сцэнары, я ўжо ведаў, нешта даволі хутка накрэмзаў. Здымаць фільм узяўся вопытны рэжысэр Барыс Сьцяпанаў[4].

Некалі Алесь Адамовіч казаў, што ўсе савецкія рэжысэры аднолькавыя і адрозніваюцца адзін ад аднаго хіба тым, як адносяцца да сцэнару. Адны бясконца перарабляюць яго самі, змушаюць на тое аўтара,

---

[1] З ліста ад 22 кастрычніка 1963 г. Арыгінал. Архіў Н. Гілевіча.

[2] З ліста ад 14 снежня 1963 г. Аўтограф. Арыгінал. ЦНБ НАНБ. Ф. 31. Воп. 1. Адз. зах. 299. Арк. 3.

[3] З ліста да Л. Геніюш ад 2 сакавіка 1964 г. Аўтограф. Арыгінал. ЦНБ НАНБ. Ф. 31. Воп. 1. Адз. зах. 299. Арк. 12.

[4] Сцяпанаў Барыс Міхайлавіч (1927–1992) — беларускі рэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). «Альпийская баллада» была другой вялікай кінематаграфічнай працай Сцяпанава (скончыў Усесаюзны дзяржаўны ін-т кінематаграфіі ў 1956 г.), які да гэтага часу зняў толькі кароткаметражны фільм «Секретарь укома» (1961) і мастацкі фільм «Последний хлеб» (1963).

а то і наймаюць памагатых. Другія, атрымаўшы сцэнар, кідаюць яго на сьметнік і здымаюць самі, як хочуць. Хто зь іх лепшы, невядома, але вынік заўсёды аднолькавы.

Мой папярэдні рэжысэр Рычард Віктараў, відаць, адносіўся да першай рэжысэрскай групы, ён выціскаў зь мяне ды іншых, хто да таго меў дачыненьне, усе сокі, дамагаючыся дасканаласьці. Другі ж, Сьцяпанаў, як толькі атрымаў зацьверджаны сцэнар, адразу ж кудысьці зьнік. І толькі калі група выехала на натурныя здымкі, запрасіў аўтара прыехаць, найперш каб адпачыць на прыродзе»[1].

Дамова з В. Быкавым на напісанне сцэнарыя была заключаная 28 лютага 1964 г.; згодна з ёй пісьменнік атрымліваў узнагароду ў памеры пяці тысячаў рублёў і яшчэ адну тысячу пасля запуску фільма ў вытворчасць[2]. Прыняццю гэтага рашэння папярэднічала абмеркаванне літаратурнага сцэнарыя «Альпийской баллады»[3].

У выніку сцэнарый быў прыняты ў якасці першага варыянта. Аўтару прапаноўвалася прадставіць папраўлены варыянт 15 сакавіка, для чаго яму было накіравана наступнае заключэнне:

«В основу сценария положена идея антифашистской солидарности всех стран, персонифицированная в образах Ивана и Джулии.

В борьбе с немецкими оккупантами ведущее место занимали народы Советского Союза и к ним тянулись сердца всех, кто сопротивлялся фашизму. Любовь Джулии к Ивану с этой точки зрения — не просто влечение молодости, а преклонение перед непобедимым духом советских людей, которые и в жесточайших условиях лагерной жизни возглавляли освободительную борьбу.

Для раскрытия этого замысла автор нашел форму остросюжетного развития действия, что, несомненно, придаст картине хороший зрелищный интерес.

Вместе с тем в сценарии еще не все до конца проработано. Коллегия рекомендует автору произвести в сценарии следующие доработки:

1. Необходимо более четко подчеркнуть мысль, что любовь Джулии к Ивану имеет в своей основе глубочайшее уважение к советскому человеку-борцу. В сценарии же пока преобладают элементы иного свойства, что значительно мельчит большую и благородную тему.

---

[1] Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 189.

[2] Паводле «Типового сценарного договора (для художественных фильмов)» ад 28 лютага 1964 г. за подпісамі І. Дорскага і В. Быкава. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 402. Арк. 77–78.

[3] Захаваўся «Протокол заседания сценарно-редакционной коллегии» ад 28 лютага 1964 г. Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 402. Арк. 73, 74–76.

Разъяренный случившимся ЧП, Орловец даже влепил лейтенанту в ухо. Но когда тут же получил в ответ и увидел Климченко плачущим, он понял все. Поняли это даже те солдаты, которые кричали на него: трус! предатель!

Но законы войны суровы — каждый человек, попавший в плен, должен предстать перед трибуналом.

И если соладты и ротный поняли, что случилось великое несчастье, особенно в тот момент, когда лейтенант, видя опущенные головы солдат, схватил автомат и один бросился на высоту и, дрогнув и поняв его порыв, за ним побежали остальные, то исполнитель устава и закона — капитан из особого отдела Петухов не может оставить этот случай без расследования. Но делает он это грубо, не учитывая того состояния, в котором находится лейтенант и люди капитана Орловца. Эта грубость окончательно ставит комроты на сторону Климченко, он его защищает, он говорит, что пошлет его сейчас вместе со всеми в атаку, и поэтому между ним и Петуховым вспыхивает резкий разговор. Но когда на сторону лейтенанта становятся все солдаты, Петухову ничего не остается, как уйти.

Рота готовится к атаке. Солдаты наспех одевают Климченко, дают ему оружие, кто-то передает самокрутку.

И вот рота вновь идет на высоту. И по тому, как бегут солдаты на врага, мы понимаем, что таких людей ничто уже не может остановить, что эти солдаты дойдут до Берлина.

(В. Быков)
(Л. Мартынюк)».

* * *

Стар. 144. *Фойер!* — Огонь! (*Ням.*)

Стар. 145. *Майн гот!* — Мой бог! (*Ням.*)

Стар. 152. *Хальт! Шиссен будэм делайт!* — Стой! Страляць будзем делайт! (*Скаж. ням.*)

Стар. 153. *Абшнайден кнопфе!* — Расшпіліцца! (*Скаж. ням.*)

**Двое в ночи**
*Киносценарий по повести «Сотников»* (стар. 160)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу, які захоўваецца ў Архіве В. Быкава (Гродна).

Можа быць датавана 1972 г.

В. Быкаў ніколі публічна не прыгадваў той факт, што напісаў кінасцэнарый па аповесці «Сотнікаў», які быў створаны па просьбе кінарэжысёра І. Дабралюбава. Праца была пачата ў першай палове 1972 г., на гэта ўказвае ліст галоўнага рэдактара к/с «Беларусьфільм»

М. Лужаніна ад 22 мая 1972 г.: «Посылаем договор на “Сотникова”. [...] Просим сообщить время окончания работы. Желательно всячески ускорить сдачу сценария»[1].

Сцэнарый падрыхтаваны не пазней ліпеня 1972 г., ва ўсялякім выпадку гэта вынікае з тэлеграмы І. Дабралюбава: «...экземпляр сценария взят сценарной коллегией студии находится мной Новополоцке Таран обещал сообщить мне срок заседания редколлегии “Сотникова” необходимо запускать этом году [...] Добролюбов»[2]. І тады ж, у ліпені, В. Быкаў атрымаў яшчэ адну тэлеграму з «Беларусьфільма»: «Связи необходимостью дополнительной консультации обсуждение вашего сценария откладывается дату обсуждения сообщим дополнительно уважением Таран»[3].

Між іншым заўважым, што І. Дабралюбаў хваляваўся, што нехта з рэжысёраў таксама звернецца да В. Быкава з аналагічнай прапановай — ён пісаў: «Чует сердце, что после появления целого каскада статей про тебя и про твое творчество к тебе полетят нарочные и предложения по сценариям. Верю, что “Сотникова”, кроме меня, делать никто не будет. Верю тебе и твоему слову. Какого авторитета и силы бы ни были кинематографические предложения»[4]. І ўжо значна пазней прыгадваў: «Давным-давно [...] я прочел только что опубликованную в журнале повесть Василия Владимировича Быкова “Сотников”[5]. Потрясенный, я тут же сел в свою машину и помчался в Гродно к Василию Владимировичу. Приехал, встретились друзья-товарищи.

— Хочу снимать, — говорю.

Я так волновался, что, как сказал Вася, у него на кухне “поставил мировой рекорд” по количеству выпитого кофе. А он спокойно сказал:

— Ладно, напишу сценарий. Лично для тебя напишу.

И через некоторое время появляется оглушительный сценарий — “Сотников”.

---

[1] З ліста за № 1064 на афіцыйным бланку, уверсе: «Государственный комитет Совета министров БССР по кинематографии», «киностудия “Беларусьфильм”». Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[2] Тэлеграма да В. Быкава ад 5 ліп. 1972 г. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[3] Тэлеграма ад 14 ліп. 1972 г. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[4] З ліста І. Дабралюбава да В. Быкава без даты. Машынапіс, аўтограф. Арыгінал. На штэмпелі — 12.03.1972 г. Архіў В. Быкава (Гродна).

[5] Аповесць упершыню надрукавана ў 1970 г.: Новый мир. № 5 (пер. аўтара); Полымя. № 11. Зыходзячы з паштоўкі І. Дабралюбава, рэжысёр звярнуўся да Быкава з просьбай аб кінасцэнарыі ў 1971 г., ва ўсялякім выпадку ён пісаў у снежні таго года: «Верю, что НАША работа с тобой впереди! И будет!» (З паштоўкі без даты. Машынапіс. Арыгінал. На штэмпелі — 26.12.1971 г. Архіў В. Быкава (Гродна).

Я с ним туда — меня оттуда, я сюда — меня туда. Водили здесь по всем кабинетам, вплоть до самого верха, в Москве — по Госкино, и кто-то такой ловкий, гадкий, мерзкий лейбл приклеил: мол, это сценарий не о Великой Отечественной войне, а “о гражданской войне в период Отечественной”. Вот так.

В общем, выгнали отовсюду, не дали снимать, не вышло у нас с Быковым ничего.

Вскоре звонит мне Вася и сообщает, что ленинградский драматург с московским режиссером будут делать картину по этой повести[1]. Решение Госкино. Вот и все. Оторвали у меня кусок сердца и отдали в другие руки»[2].

Заўважым таксама, што В. Быкавым былі падрыхтаваны, як мінімум, дзве рэдакцыі кінасцэнарыя — на гэта ўказваюць не толькі

---

[1] Зыходзячы з паметы на адной з паштовак 1972 г. з Архіва В. Быкава (Гродна) — «5–33–85 Шепитько Москва, Мосфильм» (праўда, памета зроблена не рукой Быкава — відаць, нехта з родных пісьменніка адказаў тады на тэлефонны званок рэжысёра) — задума экранізаваць «Сотнікава» ўзнікла ў Шапіцькі Ларысы Яфімаўны (1938–1979) прыкладна ў той жа час, калі дазволу на экранізацыю спрабаваў дамагчыся І. Дабралюбаў. В. Быкаў прыгадваў: «...атрымаў ліст з “Масфільму”, дзе маладая рэжысэрка Ларыса Шапіцька прапаноўвала зьняць фільм па “Сотнікаву”. Зрабіць тое параіў ёй наш агульны сябра Алесь Адамовіч. І я пагадзіўся. Праўда, ёй належала яшчэ атрымаць д а б р о ад кіраўніцтва студыі, кінаглаўку, аддзелу культуры ЦК. Але прабіўная Ларыса мела надзею і ўсё брала на сябе.

Аднак далёка ня ўсё заладзілася на самым пачатку. Найперш турбаваў сцэнар — хто напіша? Кіраўніцтва студыі пярэчыла супраць аўтарства Быкава. Я пагадзіўся — хай будзе хто іншы, паводле іхняга выбару. Выбралі маладога таленавітага кінасцэнарыста і паэта Генадзя Шпалікава, які напісаў хутка і добра. Праўда, знайшліся прэтэнзіі, нешта хацелі зьмяніць у параўнаньні з аповесьцю. Я даў сваю згоду [...].

У спакоі, аднак, ня кідалі, мітусьня вакол сцэнару працягвалася. Патрабавалася мая аўтарская падтрымка, і я прыяжджаў у Менск, дзе Ларыса вяла перамовы ўжо зь “Беларусьфільмам”. З тых перамоваў нічога ня выйшла [...]» (Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 288).

Тым не менш Л. Шапіцька ўсё-такі дамаглася свайго, але толькі праз некалькі гадоў — экранізацыя «Сотнікава» пад назвай «Восхождение» з'явілася ў 1977 г. Аўтары сцэнарыя: Ю. Клепікаў (а не Г. Шпалікаў), Л. Шапіцька. У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваюцца машынапіс кінасцэнарыя (80 старонак) з суправаджальным лістом Л. Шапіцькі, а таксама «Типовой договор о переделке повествовательного произведения в киносценарий (об уступке права экранизации)», згодна з якім Быкаў перадаў «Мосфильму» права перапрацаваць аповесць «Сотнікаў» у кінасцэнарый і стварыць на яго аснове кінафільм; дамова ад 17 верасня 1975 г. падпісана намеснікам генеральнага дырэктара к/с «Мосфильм» М. Івановым і В. Быкавым.

[2] Добролюбов И. Осколки памяти. С. 214–215.

істотныя праўкі ў сцэнарыі, але і тэлеграма А. Асіпенкі[1], які, змяніўшы на пасадзе галоўнага рэдактара студыі М. Лужаніна, у сярэдзіне верасня запрашаў аўтара «Сотнікава» прыехаць на кінастудыю для «разговора о сценарии»[2], а таксама наступны яго ліст: «Учитывая Вашу просьбу, киностудия “Беларусьфильм” продлевает срок сдачи сценария “Сотников” до 25 октября 1972 года»[3]. Ужо ў лістападзе А. Асіпенка паведамляў: «Ваш сценарий “Сотников” направлен на утверждение в Главное управление художественной кинематографии 21 ноября 1972 г.»[4]. Такім чынам, другая рэдакцыя сцэнарыя напісана не пазней лістапада 1972 г.

Адзначым таксама, што пратаколы абмеркавання сцэнарыя В. Быкава не захаваліся. У Архіве В. Быкава (Гродна) зберагаецца толькі ліст І. Дабралюбава, з якога вынікае, што сцэнарый не выратавала нават умяшальніцтва сакратара ЦК КПБ А. Кузьміна[5]:

«Вот уже несколько дней, как стало известно, что Госкино закрыло нашего “Сотникова”. Письма-заключения они еще не прислали, так что я не знаю и не могу тебе точно сообщить ту формулировку, которую пристегнули к сценарию. Да и в этом ли дело? Какая бы ни была формулировка, а сценария в производстве нет и картины не будет.

Насколько я огорчен, один бог знает.

Знаю, что к Ермашу[6] ходил Александр Трифонович, но и из этого ничего не вышло. Видно, где-то в более высоких инстанциях произошли какие-то изменения. По отношению к сценарию»[7].

---

[1] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1972–1976 гг. галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, галоўны рэдактар сцэнарнай майстэрні к/с «Беларусьфільм».

[2] З тэлеграмы ад 12 верас. 1972 г. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[3] З ліста за № 1878 ад 15 верас. 1972 г. на афіцыйным бланку, уверсе: «Государственный комитет Совета министров БССР по кинематографии», «киностудия “Беларусьфильм”». Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[4] З ліста за № 2402 ад 27 лістап. 1972 г. на афіцыйным бланку; уверсе: «Государственный комитет Совета министров БССР по кинематографии», «киностудия “Беларусьфильм”». Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна).

[5] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч; загадчык Аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ (1962–1971); сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (1971–1986).

[6] Ярмаш Філіп Цімафеевіч (1923–2002) — у 1972–1978 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па кінематаграфіі, у 1978–1986 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта СССР па кінематаграфіі; кандыдат у члены ЦК КПСС (1976–1989).

[7] З ліста І. Дабралюбава да В. Быкава ад 9 лютага 1973 г. Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна). Між іншым, па сведчанні рэжысёра Э. Клімава, кіраўнік Дзяржкіно СССР Ф. Ярмаш выступаў і супраць экранізацыі Л. Шапіцькі, аднак у той раз на абарону

Назва кінасцэнарыя, мяркуем, невыпадковая: вядома, што назва «Сотнікаў» дадзена аповесці ў рэдакцыі часопіса «Новый мир», аўтарская ж назва — «Ліквідацыя». Былі і іншыя варыянты, якія В. Быкаў пакінуў на апошнім аркушы аўтаперакладa аповесці на расийскую мову, у тым ліку — «Две судьбы»[1]. Да таго ж, па словах А. Пяткевіча[2], пісьменнік гаварыў, што адна з папярэдніх назваў была «Двое ўначы»: «Я яшчэ сказаў Быкаву, — распавядаў А. Пяткевіч, — што гэта добрая назва, паколькі тут адзначана, што абодва — і Сотнікаў, і Рыбак — аднолькавыя»[3] (між іншым, быў яшчэ адзін варыянт, па сутнасці, з той жа самай унутранай матывацыяй — «Рыбак і Сотнікаў»[4]). Хоць, безумоўна, такая назва падаецца не зусім арыгінальнай, бо выклікае асацыяцыі з вядомай аповесцю рускага пісьменніка Э. Казакевіча «Двое в степи» (1948).

Экзэмпляр сцэнарыя захаваўся ў Архіве В. Быкава (Гродна) — 67 машынапісных і 2 рукапісныя старонкі са шматлікімі праўкамі, рукапіснымі і машынапіснымі ўклейкамі. На першай, машынапіснай старонцы пазначана імя аўтара, ніжэй назвы «Двое в ночи» — «Киносценарий по повести "Сотников"». На другой, уверсе, двойчы напісана сінімі чарніламі — «Двое в ночи», ніжэй ідуць перакрэсленыя чарнавая і затым чыставая рэдакцыі ўступу: «Это древняя, как мир, история...» і г. д. па тэксце.

Сцэнарый значна папраўлены В. Быкавым, аднак у першую чаргу звяртаюць на сябе ўвагу праўкі, на якія пісьменнік хутчэй за ўсё вымушаны быў пайсці, бо асобныя месцы ў сцэнарыі адзначаны алоўкам (вертыкальнай лініяй побач), і малаверагодна, што гэта зроблена В. Быкавым — магчыма, рэдактарам з кінастудыі, бо наўрад ці аўтар такім чынам самацэнзураваў свой твор; да таго ж практычна ўсе праўкі і ўстаўкі зроблены В. Быкавым сінім чарнілам двух адценняў, аловак жа для гэтай мэты ім практычна не выкарыстоўваўся. Падругое, сустракаюцца праўкі відавочна нелагічныя. Гэта тычыцца раптоўнага з'яўлення ў сцэнарыі вялікай колькасці немцаў, якія замяняюць перакрэсленых аўтарам паліцаяў (колькасць якіх, адпаведна, адразу памяншаецца), што падчас прыводзіць да нестыкоўкі асоб-

---

фільма паўстаў ужо першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў, што і вырашыла лёс карціны (паводле: Данейко Е. Элем Климов: Мы разрушили стену и наткнулись на зеркало // Белорусская деловая газета. 1999. 2 июня).

[1] БДАМЛМ. Ф. 165. Воп. 1. Адз. зах. 26. Арк. 95.

[2] Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч (н. 1931) — беларускі літаратуразнавец; працаваў у Гродзенскім педагагічным інстытуце імя Я. Купалы загадчыкам кафедры (1968–1974); прафесар.

[3] З гутаркі аўтара каментароў з А. Пяткевічам. Чэрвень 2005 г.

[4] Гл.: Пётар Вайль: Быкаўская вайна — ня бой дзеля перамогі, а бой безь пераможцаў // Быкаў на Свабодзе. Выд. 2-е. [Без м.] Радыё «Свабодная Эўропа» / Радыё «Свабода». 2005. С. 376.

ных планаў сцэнарыя. Так, напрыклад, на двор да Дзёмчыхі, згодна з першай рэдакцыяй, прыходзяць тры паліцаі (10-ы раздзел), аднак В. Быкавым выпраўлена — «несколько немцев» і праз тры абзацы: «немцы уже вошли в сени». Паліцаі тут нават не згадваюцца, аднак размову «немцы» вядуць на рускай мове, і нават вядома імя аднаго з іх — Стась (праўда, далей у гэтым жа раздзеле В. Быкаў не выправіў «паліцаяў» на «немцаў»). Таксама паспешліва ўпісаны ў эпізод «гер Будила», пазнейшая характарыстыка якога («здешний палач. Это был буйволоподобный двухметрового роста детина с обезьяньей мордой и длинными руками») выкрэслена, відаць, з той прычыны, каб прама не ўказваць на «тутэйшасць» ката. Новыя персанажы-немцы з'яўляцца і ў далейшым (напрыклад, падчас допыту Сотнікава Партновым у канцылярыю ўвойдзе шэф СД і паліцыі бяспекі), хоць іх няма ў аповесці і не было ў першай рэдакцыі сцэнарыя. Гэтае, падчас нічым неапраўданае, умяшальніцтва ў драматургічны твор было б цяжка матываваць, калі б ні прыведзенае вышэй сведчанне І. Дабралюбава: «...кто-то такой ловкий, гадкий, мерзкий лейбл приклеил: мол, это сценарий не о Великой Отечественной войне, а "о гражданской войне в период Отечественной"».

Відаць, менавіта наяўнасць паліцаяў і ўказвала цэнзарам на матыў грамадзянскай вайны ў сцэнарыі. Трэба думаць, з-за гэтага аўтар і пачаў «пазбаўляцца» ад паліцаяў. Заўважым, што яшчэ падчас падрыхтоўкі аповесці да друку і ў прыватнасці пры яе абмеркаванні на рэдкалегіі часопіса «Полымя» 17 жніўня 1970 г. І. Пташнікаў[1] закінуў аўтару «Сотнікава» папрок, быццам у творы «занадта многа нашых. Мала немцаў»[2], а А. Вялюгін[3] адзначыў, што «ў Б[ыкава] змаганне з З[-яй] сілай як у грамадзянскую вайну — быў Камінскі[4],

[1] Пташнікаў Іван Мікалаевіч (нар. у 1932) — беларускі пісьменнік. З 1962 г. — рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя».

[2] Стэнаграма пасяджэння не захавалася; тут і ніжэй цытуецца паводле запісаў В. Быкава з нататніка. Аўтограф. Архіў В. Быкава (Гродна).

[3] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994) — беларускі паэт, кінадраматург, перакладчык. У 1946–1984 гг. — рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя».

[4] Камінскі Браніслаў Уладзіслававіч (1899–1944) — брыгадэфюрэр СС, генерал-маёр войск СС, стваральнік і кіраўнік РВНА («Руская вызвалечная народная армія»). У 1935 г. выключаны з ВКП(б) за крытыку калектывізацыі; у 1937 г. арыштаваны і асуджаны; на пачатку 1941 г. вызвалены і адпраўлены на пасяленне ў п. Локаць (Бранская вобл.). Пасля стварэння Локацкага самаўпраўлення — намеснік бургамістра К. Васкабойніка, затым обер-бургамістр Локацкай акругі самаўпраўлення. Увосень 1942 г. стварыў для абароны ад партызан першую брыгаду РВНА. У 1943 г. прымаў удзел у карных антыпартызанскіх аперацыях у раёне г. Лепеля (Віцебская вобл.). У 1944 г. падраздзяленне перайменавана ў Народную брыгаду Камінскага; яна прымала ўдзел у падаўленні Варшаўскага паўстання.

быў Гіль[1] [...]». Але ў той раз падобныя прэтэнзіі не мелі сур'ёзных наступстваў, хаця П. Кавалёў[2] і І. Пташнікаў, абагульняючы заўвагі па аповесці, звярталіся да яе аўтара: «Хацелася, каб Вы абавязкова паказалі больш галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў, а не мясцовую паліцыю: вядома, што паліцаі былі толькі фашысцкімі паслугачамі і г. д.»[3]. І хаця В. Быкаў побач з гэтым пунктам пазначыў алоўкам «болей немцаў», аднак колькасць немцаў ён павялічыў толькі ў сцэнарыі.

Што тычыцца заўваг кінацэнзараў, дык не выключана, што менавіта яны прымусілі пісьменніка пазбавіцца і ад аднаго з эпізадычных персанажаў: паліцая па прозвішчу Тарасюк (замест яго паўсюль упісаны паліцай Стась). Справа ў тым, што ў сцэнарыі (таксама як і ў аповесці) ёсць ужо адзін адмоўны персанаж з украінскім прозвішчам — усё той жа Стась Гаманюк. Пасля публікацыі ў 1966 г. у «Новом мире» аповесці «Мёртвым не баліць» В. Быкаву працяглы час ставілі ў віну «пространные намеки с попыткой противопоставить украинцев белорусам, утверждение, будто бы все украинцы чуть ли не с раскрытыми объятиями встречали гитлеровцев»[4]. І таму, па сведчанні былога прадстаўніка Галоўліта СССР У. Соладзіна (у 1961–1991 гг. узначальваў аддзел па кантролю грамадска-палітычнай і мастацкай літаратуры), «у прозе Васіля Быкава асабліва адсочваліся суадносіны "станоўчых" і "адмоўных" герояў па нацыянальных прыкметах: колькі і якіх рускіх, беларусаў, украінцаў»[5]. У. Соладзін прызнаваўся: «По "сигналу", поступившему из украинского Лита, ЦК посадил наш Главлит "на подсчет украинских фамилий в повестях

---

[1] Гіль Уладзімір Уладзіміравіч (1906–1944) — у 1941 г. падпалкоўнік Чырвонай Арміі. Апынуўшыся ў палоне, стаў камендантам лагера; пазней закончыў разведшколу СД у Берліне. Стварыў у канцлагеры Заксенхаўзен «Баявы саюз рускіх нацыяналістаў» (БСРН), які пасля вызвалення членаў саюза з лагера пераўтварыўся ў антыпартызанскае ваеннае фарміраванне. Пачынаючы з 1942 г., атрады У. Гіля дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы, затым — Беларусі. У 1943 г., пасля няўдалага выступлення супраць партызан, У. Гіль, атрымаўшы асабістыя гарантыі, разам з вялікай часткай БСРН перайшоў на бок партызан. Разам з ордэнам Чырвонай Зоркі атрымаў званне палкоўніка Чырвонай Арміі.

[2] Кавалёў Павел (1912–1995) — беларускі пісьменнік. Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» (1967–1972).

[3] Машынапіс на афіцыйным бланку часопіса «Полымя» ад 19 жн. 1970 г. за подпісамі П. Кавалёва, І. Пташнікава. Арыгінал. Архіў В. Быкава (Гродна). Копія захоўваецца: БДАМЛМ. Ф. 42. Воп. 1. Адз. зах. 621. Арк. 7–8.

[4] Цыбенов Н. Зачем же так оскорблять солдатскую память: Об одной повести В. Быкова // Байкал, 1966, № 3, с. 138. Гл. таксама: Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 195, 207; Лубкіўскі Р. Вялікі Беларус // Наш Быкаў: Кніга ўспамінаў / уклад. Г. Бураўкін. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2004. С. 491; Аскоцкі В. Праз гады — праз жыццё // Наш Быкаў. С. 422–423.

[5] Аскоцкі В. Праз гады — праз жыццё // Наш Быкаў. С. 423.

Василя Быкова. И что вы думаете, — сидели, считали!..”»[1]. І калі ў аповесці «Сотнікаў» галоўлітаўскія цэнзары ці не даглядзелі, ці проста пакінулі без ўвагі ўкраінскія прозвішчы адмоўных персанажаў, дык у кінасцэнарыі цэнзура, відаць, праявіла большую пільнасць: Тарасюк аўтарам быў выкраслены.

Сярод іншых істотных правак, зробленых В. Быкавым у сцэнарыі «Двое в ночи», вылучаюцца наступныя:

Стар. 160. *Пролог.* — «Пролог», трэба думаць, быў дапісаны Быкавым пазней, бо адрозніваецца шрыфтом асноўнага машынапісу; да таго ж парушана нумарацыя аркушаў — 1-ы раздзел, які ідзе пасля «Пролога» (памерам у два аркушы), пранумараваны, пачынаючы з адзінкі.

Стар. 164. — *А ты откуда знаешь? [...]*

*— Пройдет, конечно. Только бы до жилья дотопать. А то... Такой славный хуторок был! Ах, сволочи, сволочи!..* — Увесь гэты фрагмент, надрукаваны на іншай друкарскай машынцы, уклеены.

Стар. 165. — *Вот, узнаешь? Гузаковский маслозаводик-то. Одни головешечки да кирпич.*

*— Это до меня еще.*

*— Ах, до тебя. Это мы с группой Лукашкина постарались. В декабре. И мост на Ислянке. В одну ночь — два объекта. Тих!.. Что такое?..* — Рукапісная ўстаўка (на асобным кавалачку паперы) замест закрэсленага ў машынапісе: «— Вот за пригорочком и Гузаки. Уж там что-нибудь... Тихо!»

Стар. 167. — *Мы не полицаи, чтоб требовать водки.* — Дапісана. Наступны сказ: «— Что ж, обойдемся без водки» закрэслены, відавочна, з-за таго, што гэты фрагмент (пачынаючы з фразы: «— Догадываешься, кто мы?») адзначаны алоўкам.

Стар. 169. — *Это еще как посмотреть, — сказал старик. — Своим я не враг.* — У машынапісе:

«— Смотря кому враг, — твердо сказал старик.

— Своим. Русским.

— Своим я не враг», але папраўлена.

Стар. 169. — *Кто стрелял? Наши?*

*— В тот раз полицаи. Водки требовали.*

*— Нам водки не надо... Корова есть?* — У машынапісе:

«— Кто стрелял?

— А такие, как вы. Водки требовали.

— Да-а... Корова есть?», але папраўлена, відаць, з-за таго, што дыялог адзначаны алоўкам.

Стар. 170. *То полицаи, то немцы.* — Дапісана.

---

[1] З ліста В. Аскоцкага да В. Быкава без даты. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

Стар. 170. *...к стенке вон ставят...* — Дапісана ўверсе над закрэсленым: «водки требуют». Гэтая фраза жонкі старасты таксама адзначана алоўкам.

Стар. 173. *Он не боялся умереть в бою, но он страшился своей беспомощности. [...] У него было две обоймы патронов, девять пуль он пошлет по немцам, десятую пустит в себя.* — Рукапісны тэкст уклеены.

Стар. 180. *Несколько немцев...* — Напісана замест закрэсленага ў машынапісе: «Трое полицаев».

Стар. 180. *Снизу доносились голоса, немцы уже вошли в сени.* — У машынапісе: «Снизу доносились голоса полицейских и Демчихи», але папраўлена.

Стар. 180. *...и Рыбак испуганно покосился на него.* — Далей зроблена дапіска (злева ад тэкста): «Рыбак: Держись! Держись, может еще пронесет. Кажется, они не за нами», але закрэслена алоўкам.

Стар. 181. *— Яволь, гер Будила!* — Дапісана.

Стар. 181. *...ярился Будила. [...]*

*Только бы не обнаружил их тут — и не погубил детей и эту несчастную женщину.* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 182. *С поднятыми руками они стояли возле дымохода, и Сотников кашлял — теперь можно было не сдерживаться. [...]*

*Почему они забрались сюда, почему зашли в эту деревню, почему не погибли в поле, когда их было лишь двое?* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 182. *Два полицая и немец шарили...* — У машынапісе: «Два полицая шарили», але папраўлена.

Стар. 183. *— Не переломают — за нас Германия, чмур! [...]*

*Из хаты вытащили Демчиху.* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 183. *— Швейг! — гаркнул фельдфебель, и старший полицай подскочил к женщине.* — Дапісана.

Стар. 184. *Местечковой улицей они подъезжали к зданию СД и полиции. [...]*

*Вдруг связанными руками он дернул из ее рта кляп.* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 184. *— Ты что! Ты что, чмур! — взревел Будила...* — У машынапісе: «взревел старший полицай», але папраўлена.

Стар. 184. *Больше здесь никого не было, и, не сдержавшись, Сотников простонал, громко и протяжно. [...]*

*Конечно, решимости у него хватало, но вот как быть, если не хватит выдержки и простой физической силы?* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 186. *Широко распахнулась дверь, и в канцелярию быстрым шагом вошел шеф СД и полиции безопасности. [...]*

*— Каждый пропадает за себя, — сказал Сотников.* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 187. *— Ты мне брось эту агитацию!* — Напісана замест закрэсленага ў машынапісе: «— Так хватит играть в прятки!»

Стар. 187. *Если мне петля, то тебе будет хуже.* — Напісана замест закрэсленага: «Вы сами должны понимать, чем рискуете».

Стар. 188. — *Нет! [...]*

*— Ах так? Будилу — ко мне!* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 188. *...уже знакомый ему Будила. Войдя, он плотоядно осклабился при виде очередной...* — Напісана замест закрэсленага: «здешний палач. Это был буйволоподобный двухметрового роста детина с обезьяньей мордой и длинными руками. Войдя, он сразу нацелился на свою».

Стар. 188. *...ходь ко мне! Ужо я перемацаю твои косточки, большевистская гнида!* — Напісана замест закрэсленага: «большевистская гнида!»

Стар. 195. — *Я им послужу! [...]*

*— Да, брат, у тебя ветер в голове и никаких принципов.* — Рукапісная ўклейка.

Стар. 195. — *Зато у тебя их чересчур много!* — Дапісана.

Стар. 195. *...чихая на все и всякие принципы, и думает, как спасти свою голову.* — Дапісана.

Стар. 198. *Батька мужик был, а он на учителя выучился. А теперь вон новой власти как служит!* — Напісана замест закрэсленага: «Против бога, бывало, по деревням агитировал. Да так складно». Гэты фрагмент дыялога таксама адзначаны алоўкам.

Стар. 199. *...еще один сюрприз — этот староста. Кажется, свой человек, а вчера они видели в нем врага. И просчитались.* — Напісана замест закрэсленага: «неловко все же получается с этим старостой. Кажется, мы в нем едва не ошиблись. Но что теперь делать?»

Стар. 199. *Немцы построили всех и повели в карьер, где глину брали. Выскочила я...* — Дапісана.

Стар. 199. *«Ни за что не ходи, — говорит, — прячься». [...]*

*Особенно Будила этот. Руки мне все выкручивал...* — Рукапісная ўклейка і асобны аркуш з рукапісным тэкстам.

Стар. 204. *Здесь было полно немцев, которые куда-то собирались, заряжали оружие. [...] Это была овца старосты, брошенная им в кустарнике.* — Дапісана побач з тэкстам.

Стар. 204. *Рассматривая двор и немцев, рядом...* — У машынапісе: «на их пути встали полицаи. Следом», але папраўлена.

Стар. 204. *...язвительно намекнул Будила.* — У машынапісе: «коренастый мордатый полицай», але папраўлена.

Стар. 204. *На крыльцо из помещения тем временем...* — У машынапісе: «помещения полиции», але папраўлена.

Стар. 204. *...пять или шесть немцев в фуражках...* — У машынапісе: «два или три немца в фуражках», але папраўлена.

Стар. 204. *Немцы во дворе притихли.* — У машынапісе: «полицаи», але папраўлена.

Стар. 204. *Первым шагнул на ступеньки шеф СД с маленькой...* — Напісана замест закрэсленага: «видный плечистый полицай с маленькой».

Стар. 205. *Шеф обернулся к Портнову, который шел следом. [...]*

*— Это есть ерклёрунг — просьба, — пояснил Портнов.* — Дапісана.

Стар. 205. — *Маршірен, маршірен! — бросил шеф, натягивая перчатки и сходя со ступенек на снег.* — Дапісана.

Стар. 205. — *Стась!*

*Стась подскочил к Демчихе...* — У машынапісе: «— Тарасюк!

Полицай, вязавший Рыбака, подскочил к Демчихе», але папраўлена.

Стар. 206. — *Врешь! Стась!!*

*Стась, наготове стоявший за спиной...* — У машынапісе не Стась, а Тарасюк, але папраўлена.

Стар. 206. — *Готово! — сказал Стась.* — У машынапісе — «Тарасюк».

Стар. 206. *Площадь была оцеплена густым рядом немецких солдат.* — Дапісана.

Стар. 207. *Немецкий солдат с помощью Рыбака...* — Напісана замест закрэсленага: «Рыбак и еще один полицай».

Стар. 207. *...что-то скомандовал шеф, и немец, ведший Сотникова...* — У машынапісе: «что-то скомандовал Будила, и полицай, ведший Сотникова», але папраўлена.

Стар. 207. *Будила и немцы...* — У машынапісе: «Полицаи», але папраўлена.

Стар. 208. *Шеренга стоявших в оцеплении немцев замерла.* — Дапісана.

Стар. 208. *На коленях он отполз в сторону и с усилием встал.* — Дапісана.

Стар. 209. *Но Рыбак не обращает на них внимание, он оглядывается по сторонам.* — Дапісана.

Стар. 210. *...подпоясываясь, выходит немец.* — У машынапісе: «кто-то выходит», але папраўлена.

Стар. 210. *Черт, неужели нельзя и умереть? Неужели и умереть нельзя? Да что же это такое?..* — Дапісана побач з тэкстам.

Стар. 210. *Взгляд Рыбака в совершенной растерянности скользит по доскам уборной, опускается вниз. На лице его замешательство, в глазах безысходность.*

*Выхода для него нет.* — У машынапісе: «Взгляд Рыбака напоследок мечется в бессилии по доскам уборной, опускается вниз. На лице его страх и замешательство. В глазах застывает страх и безысходность», але папраўлена і дапісана.

**Волчья стая**

*Киносценарий* (стар. 211)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу, які захоўваецца ў фондзе к/с «Беларусьфільм»: БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 1083. Арк. 119–189.

Датуецца 1974 г.

Літаратурны сцэнарый фільма «Волчья стая» (рэжысёр Б. Сцяпанаў) мае тры варыянты, другі напісаны В. Быкавым пасля заўваг, зробленых сцэнарнай рэдкалегіяй «Беларусьфільма» падчас пасяджэння 21 сакавіка 1974 г. Пратакол гэтага пасяджэння, мяркуючы па ўсім, быў перададзены В. Быкаву, таксама як і наступнае заключэнне:

«Ретроспекции, имеющиеся в сценарии, носят иллюстративный, информационный характер и не способствуют обогащению эмоционального звучания сценария. Некоторые из них вообще излишни. Следует их либо полностью переосмыслить, либо исключить, переведя заключенную в них информацию в диалог персонажей.

Нуждаются в углублении характеристики героев, о судьбах и взаимоотношениях которых хотелось бы узнать полнее. В частности, не ясна предыстория отношений Клавы, Платонова, Левчука.

В начальных эпизодах сценария хотелось бы ярче подчеркнуть отношение партизан к Клаве — женщине и будущей матери.

В финале уточнить эпизод, в котором партизаны предпринимают попытки спасти Клаву и ее ребенка, четче объяснить мотивы поступков Левчука, усилить роль деда Грибоеда, подчеркнув момент его самопожертвования, показать гибель Клавы.

На взгляд сценарной редакционной коллегии, не вызывается необходимостью появление предателя-полицая.

Хотелось бы, чтоб автор продумал характер закадровых размышлений Левчука перед встречей со спасенным им человеком».[1]

Другі варыянт сцэнарыя быў падрыхтаваны В. Быкавым, магчыма, на пачатку красавіка 1974 г. і, відаць, не выклікаў асаблівых пярэчанняў на «Беларусьфільме»:

---

[1] Паводле «Заключения сценарной редакционной коллегии по литературному сценарию В. Быкова “Волчья стая”» ад 25 сак. 1974 г. Машынапіс за подпісамі А. Асіпенкі, Н. Кругавых, О. Пушкіна. На першай стар. справа ўверсе: «“Утверждаю” директор киностудии “Беларусьфильм” *В. Ивановский*. 25 марта 1974 г.». Подпісы — аўтограф. Архіў В. Быкава (Гродна).

«Заключение
киностудии “Беларусьфильм” по литературному сценарию
В. Быкова “Волчья стая”

...Тридцать лет искал Левчук человека, о котором знал лишь одно — сам рискуя жизнью, спас его, новорожденного, в суровую годину партизанских сражений. И вот он находит улицу, дом, квартиру...

А память неотвратимо и властно воскрешает грозные дни минувшего, заставляет вновь и вновь их пережить.

Сегодняшний день, в который врывается прошлое, — в сценарии В. Быкова не просто прием для завязки действия, а та непрерывающаяся «связь времен» в душе героя, свято хранящего память о товарищах по оружию, нравственный кодекс жизни не только в грозные годы испытаний, но и сегодня, для всех... Историю, рассказанную автором, делают значительной, наполняют высоким смыслом его герои, люди, к которым сразу проникаешься доверием, с которыми вместе переживаешь.

В. Быков знакомит нас с характерами своеобразными, незаурядными, и в то же время такими обычными, живыми, неповторимыми.

...Немногословный, чуть угрюмый и по-крестьянски находчивый Левчук, от которого вроде и трудно ждать подвига, но который в любой момент готов на самые тяжкие испытания; дед Грибоед — фигура полная трагизма и вместе с тем глубокой народной мудрости и благородства; “Партизанская Мадонна” Клава — олицетворение любви, материнства и беззаветного мужества; каждый со своей судьбой, своей мерой любви и ненависти, с верой в Победу над волчьей стаей... Их нельзя не полюбить.

Все это позволяет надеяться на то, что на основе этого сценария может быть создано интересное, значительное произведение для экрана.

Главный редактор киностудии “Беларусьфильм” *А. Осипенко*

Редактор фильма *Л. Поздняк*

*16.IV.74.»*[1]

У сваю чаргу Галоўная сцэнарная рэдакцыйная калегія Дзяржкіно СССР у асобах галоўнага рэдактара Д. Арлова і галоўнага рэдактара групы ваенна-патрыятычнага фільма Ю. Платонава дазваляла запуск у рэжысёрскую распрацоўку сцэнарый В. Быкава, але з улікам наступных прапаноў:

---

[1] Машынапіс. На першай стар. справа ўверсе: «“Утверждаю” директор киностудии “Беларусьфильм” *В. Ивановский*. 16 апреля 1974 г.». Подпісы — аўтограф. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 883. Арк. 368–369.

«а) прояснить судьбу партизанки Клавы после того, как она оставляет группу Левчука;

б) диалоги с участием Грибоеда приблизить к русскому тексту: многие слова и выражения могут оказаться непонятными для массового зрителя;

в) сцена с волками ничего не добавляет образу главного героя, не разбивает сюжет. Одновременно она вносит путаницу и в без того сложную систему ретроспекций. Предлагаем авторам обойтись без этого эпизода, одновременно сменив название сценария»[1].

Мяркуючы па ўсім, сам В. Быкаў застаўся незадаволены кінастужкай — яшчэ падчас здымак ён пісаў П. Панчанку[2]: «Цяпер вось па ёй [па аповесці. — *Рэд.*] здымаюць фільм у Пастаўскім раёне, але фільм, як заўжды, цягне ўсё на слабіну, — на звычайнасць. Нядаўна быў там, толькі вярнуўся»[3]. А ў лісце да В. Аскоцкага прызнаваўся: «...все лето возился в кино, которое надоело хуже театра»[4].

Фільм быў прыняты дырэкцыяй к/с «Беларусьфільм» 3 сакавіка 1975 г.[5] Выйшаў на экран 17 лістапада 1975 г. (у 1976 г. дубляваны на беларускую мову).

*Рэцэнзіі*: Бабкова А. Сцежкі да перамогі // Літаратура і мастацтва. 1974. 1 лістап.; Демушкин Е. В ответе за будущее // Литературная газета. 1974. 13 дек.; Мацкевич А. Герои повести — герои экрана // Советская культура. 1974. 10 дек.; Крупеня Я. Сцвярджэнне мужнасці і дабраты // Звязда. 1975. 13 лістап.; Николаев В. Недосказанная история // Советский фильм. 1975. № 10. С. 18–19; Хлоплянкина Т. Волчья стая // Спутник кинозрителя. 1975. № 11. С. 2; Фрольцова Н. Люди

---

[1] Машынапіс. Копія. Уверсе: «ГОСКИНО СССР Главная сценарная редакционная коллегия по художественным фильмам», «29 апреля 1974 г. № 1/295»; ніжэй: «Председателю Государственного Комитета Совета Министров Белорусской ССР по кинематографии тов. Матвееву В. В., директору киностудии “Беларусьфильм” тов. Ивановскому В. Э.»; унізе службовая памета: «верно [*подпіс неразб.*]». БДАМЛМ. Ф. 112. Воп 1. Адз. зах. 883. Арк. 367.

[2] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995) — народны паэт БССР (1973). У 1958–1966 гг. галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», у 1966–1972 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР; ганаровы акадэмік АН Беларусі (1994); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1968), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959).

[3] З ліста ад 24 жн. 1974 г. «Бачу Вас побач... »: Лісты Васіля Быкава да Пімена Панчанкі / публ. З. К. Панчанкі; падрыхт. да друку А. Урбана // Полымя. 2001. № 8. С. 162.

[4] З ліста ад 6 кастр. 1974 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

[5] Згодна з «Актом о принятии законченного производством кинофильма “Волчья стая”» ад 3 сак. 1975 г. Машынапіс за подпісам У. Матвеева. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 883. Арк. 201.

и волчья стая // Вечерний Минск. 1975. 21 нояб.; Егоров А. Поиски и потери // Советская культура. 1975. 25 нояб.; Подберезский Г. Испытание огнем // Сельская газета. 1975. 5 дек.; Аграновский Э., Козак А. Выбор // Заря (г. Брест). 1975. 5 дек.; Рунин Б. Четверо против волчьей стаи // Советский экран. 1975. № 20. С. 3–4; Байран М. Роздум пасля сеанса // Літаратура і мастацтва. 1976. 19 сак.; Бондарева Е. Киногод-75: заметки критика с четвертого смотра-конкурса работ киностудии «Беларусьфильм» // Вечерний Минск. 1976. 12 мая; Дубоўскі М. Без пэўных пазіцый // Літаратура і мастацтва. 1976, 3 верас.; Савицкий Н. Дорогами войны // Советская культура. 1976. 2 нояб.; Бондарева Е. Повести и фильмы // Неман. 1977. № 10. С. 162–164; Бобкова А. Зритель есть зритель // Знамя юности. 1978. 13 июня; Аронов А. Кто входит в наш дом? // Московский комсомолец. 1980. 16 марта; Зайцава Л. Жанр у экранізацыях сучаснай прозы: Аповесці В. Быкава ў кіно // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1981. № 4. С. 90–91; Смаль В. Человек. Война. Подвиг. Минск, 1979. С. 118–119; Зайцева Л. Жанровая палитра белорусского кино. Минск, 1983. С. 10–11; Маматова Л. Ветви могучей кроны. М., 1986. С. 35–42, 67–68; Ратников Г. На экране — Великая Отечественная // Современное белорусское кино. С. 114–117; Гісторыя кінамастацтва Беларусі: у 4 т. Т. 2. С. 127–130.

У фондзе к/с «Беларусьфільм» у папцы з матэрыяламі па фільму «Волчья стая» захоўваецца тры рэдакцыі літаратурнага сцэнарыя. Першая — аўтарызаваны машынапіс (58 старонак; БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 1083. Арк. 1–58) з нязначнымі праўкамі, зробленымі чорным чарнілам; уверсе першай старонкі, па цэнтры, напісана (але не В. Быкавым): «Волчья стая», злева ўверсе: «[*неразб.*] принят. Заявка утверждена 21/III–74 г.». Другая рэдакцыя — аўтарызаваная машынапісная копія з нязначнымі праўкамі, зробленымі сінім чарнілам (58 старонак; там жа, арк. 59–118); на першай старонцы надрукавана: «В. БЫКОВ», ніжэй: «ВОЛЧЬЯ СТАЯ Киносценарий», яшчэ ніжэй рукой В. Быкава напісана: «2-й вариант»; злева ўверсе службовая памета ад рукі: «[*неразб.*] обсужден. [*неразб.*] Принят. Перед отправкой в Главк на утверждение внести исправления, высказанные коллегией»; злева пасярэдзіне подпіс І. Шамякіна і дата: «9.IV.74 г.»; унізе: «вх. 4 8/IV–74»; на наступнай старонцы злева ўверсе службовая памета ад рукі: «Утвержден на редсовете 12[?]/IV.74 г. Принят». Трэцяя рэдакцыя — таксама машынапіс (70 старонак; там жа, арк. 119–189); на першай старонцы надрукавана: «В. БЫКОВ», пасярэдзіне: «“ВОЛЧЬЯ СТАЯ”», ўнізе: «“Беларусьфільм” — 1974 г.»; злева ўверсе службовая памета ад рукі: «Вариант [*неразб.*] Госкино СССР. 17/IV–74 г.». Пры параўнанні гэтых варыянтаў, акрамя не надта істотных стылёва-лексічных разыходжанняў, звяртаюць на сябе ўвагу наступныя тэксталагічныя змяненні, зробленыя аўтарам:

Стар. 212. *На одной из этих табличек он вдруг видит: «ул. Космонавтов», и лицо его прояснется.* — У першай рэдакцыі далей ішло з новага абзаца: «Ну вот и нашел, — думает он. — Теперь где-то тут, близко...» (1-я рэдакцыя (І). БДАМЛМ. Ф. 112. Воп. 1. Адз. зах. 1083. Арк. 2; 2-я рэдакцыя (ІІ), там жа, арк. 62; 3-я рэдакцыя (ІІІ), там жа, арк. 121).

Стар. 212. *Постепенно созерцательное выражение на его лице сменяется нетерпением и озабоченностью.* — У першай рэдакцыі далей ішло з новага абзаца: «Значит, тут где-то. Интересно, кто ему откроет? Если бы сам... Хотя разве узнаешь его? А может, и узнаешь! Наверное же, чем-то похож на отца, а отец-то помнится хорошо. Высокий, белокурый, глаза спокойные... Капитан Платонов!» (І, арк. 2; ІІ, арк. 62; 3-я рэдакцыя (ІІІ), там жа, арк. 121).

Стар. 212. *Какой тут указан корпус?* — У першай рэдакцыі: «Какой тут племяш указал мне корпус?» (І, арк. 3; ІІ, арк. 63; ІІІ, арк. 122).

Стар. 213. *...от этой их детской осведомленности.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 4; ІІ, арк. 64; ІІІ, арк. 123).

Стар. 213. *А какую квартиру надо?*

*— Квартира пятьдесят вторая.*

*— Пятьдесят вторая... А там написано. Вверху над каждой дверью написано.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 4; ІІ, арк. 64; ІІІ, арк. 123).

Стар. 213. *...и побежали наискосок через дорожку.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 4; ІІ, арк. 64; ІІІ, арк. 124).

Стар. 214. *Надо свидеться. И поговорить. Все-таки есть о чем поговорить. Главное, узнать — как и что он? Да и рассказать о себе. Пусть знает. Тоже не мешает и ему обо всем узнать. Хотя и через тридцать лет.* — У першай рэдакцыі: «Столько сюда стремиться, столько о нем передумал! Судьба, видно, связала его с этим человеком до конца его дней — тут уж ничего не попишешь. Хочешь того или нет. Поэтому надо свидеться, поговорить. Все-таки есть о чем поговорить. Главное, узнать — как и что он? Да и рассказать свое...» (І, арк. 6; ІІ, арк. 66; ІІІ, арк. 126).

Стар. 215. *И мы должны позаботиться о вашей судьбе и судьбе ребенка.*

*— Позаботишься тут о ней! Сама на рожон лезет.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 7; ІІ, арк. 67; ІІІ, арк. 127).

Стар. 216. Не *хватало мне еще шляться по бабам. Нашли подходящего...* — У першай рэдакцыі: «Не хватало еще...» (І, арк. 8; ІІ, арк. 68; ІІІ, арк. 128).

Стар. 216. *Начштаба, шурша плащ-палаткой, направился в кустарник, Пайкин исчез и еще раньше.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 8; ІІ, арк. 68; ІІІ, арк. 129).

Стар. 216. *...растерянно проговорил Левчук, подтягивая ремень на пиджаке.* — У першай рэдакцыі адсутнічае (І, арк. 8; ІІ, арк. 69; ІІІ, арк. 129).

Стар. 217. *Кисель кинул «бычка» докурить, только рукой потянулся и — трах, получай! [...]*

*— Сказал! — зло говорит Левчук...* — У першай рэдакцыі замест гэтага фрагмента:

«Долгая гряда — песчаный, поросший соснами пригорок, в котором нарыты окопчики. В одном сидит Левчук с прикладом ручного пулемета у плеча. Бой только что утих. Левчук отрывает приклад от плеча, достает из кармана завернутый в тряпицу кусок хлеба и не спеша ест его. Съев все до крошки, оглядывается — похоже, сосед закуривает, и Левчук окликает его:

— Эй, Кисель, кинь «бычка»!

Вскоре со стороны соседа летит ветка с зажатым в ее разломе окурком, но она падает, не долетев до окопчика, Левчук тянется за ней рукой. И в этот момент под его руками хлестко щелкает, лицо осыпают песок и хвоя, доносится звук выстрела. Левчук хватается за плечо, по пальцам руки течет кровь. Он раздосадован, но еще больше удивлен и вскакивает.

— Ах вы, сволочи!

Он хватается за пулемет, но первое прикосновение приклада к плечу вызывает в нем боль, и он снова опускается в окоп, где кое-как перевязывает себя тряпицей, в которой был завернут хлеб. Потом кричит Киселю:

— Эй, Кисель, я ранен! Ранен я. Передай ротному.

— Здорово? — спрашивает сосед.

— А черт его знает! В плечо.

— Ну, в плечо — ерунда! Отоспишься в санчасти...

— Отоспался! — зло говорит Левчук» (I, арк. 9–10; II, арк. 69; III, арк. 130).

Стар. 222. *...и, взглянув на солнце, он вдруг сказал:*

*— Смотри, Клава, солнце взошло!*

*[...]*

*На середине картофельного поля раненый, придя в себя, приподнимает голову.* — У першай рэдакцыі замест гэтага фрагмента: «и перед его взглядом появилась другая Клава, какой она была около года назад...

...По лесной дороге едут сани, запряженные парой лошадей, по обе стороны стоит зимний сосновый лес, в санях Левчук в тулупе, его двое товарищей-партизан и молоденькая девушка, одетая в новенький полушубочек, шапку, с валенками на ногах. В соломе стоят две упаковки с рацией. Клава неспокойно вертится, оглядывается, восторгаясь лесом, природой, вдруг она видит на дереве белку, сани останавливаются, она бросается за белкой по лесу. Рядом бежит Левчук, он не сводит влюбленных глаз с девушки, у обоих радостно и безмятежно на душе.

Они останавливаются на опушке кустарника, впереди раскинулась картофельная нива, и Левчук не сразу, оглядевшись, сворачивает на нее. Идут вдоль по бороздам, Клава несколько отстает, раненый то и дело сползает с лошади на бок, и они, остановившись, поправляют его, поджидая Клаву. И снова в памяти Левчука всплывает картинка прошлого...

...Группа партизан устраивается на ночлег в деревне, хозяин расстилает на полу солому, они укладываются на ней. Клава располагается на печке, она оживлена, любопытно расспрашивает о всех незнакомых для нее вещах. Потом они тянут из шапки Левчука бумажки с часами ночного караула, Клава вытягивает время с 3 до 5 — самое неудобное время ночи, но поменяться отказывается. И вот Левчук, зайдя ночью в дом, вглядывается в стрелки ходиков на стене — пора будить Клаву, он подходит к печке, минуту смотрит, как радистка сладко спит в тепле, и выходит обратно. На утро она обиженно плачет из-за того, он морщится, чувствуя себя виноватым...

Они на середине картофельного поля и идут, придерживая раненого, который, придя в себя, приподнимает голову» (I, арк. 17–18; II, арк. 77–78; III, арк. 139–140).

Стар. 224. *Вдруг Левчук, тяжело дыша, останавливается.*

*[...]*

*— Ладно, — говорит Левчук. — Потом... Быстро пошли!.. А то...* — У першай і другой рэдакцыях адсутнічае (I, арк. 21; II, арк. 80; III, арк. 143–144).

Стар. 227. *Запряженные парой, знакомые сани мчатся по лесной дороге. [...]*

*Левчук хмурится, потом берет две упаковки радиостанции и с совершенно убитым видом несет их следом в землянку.* — У першай рэдакцыі замест гэтага фрагмента: «...Землянка, маленькое окошко бросает слабый свет на самодельный, грубо сколоченный стол, за которым у рации сидит Клава. Распахивается дверь, и на пороге появляется начштаба капитан Платонов.

— Клавка, пожелай мне ни пуха ни пера! — говорит он, радостно улыбаясь, и она бросается ему навстречу.

— Витя! — сдавленно говорит она. — А почему ты? Левчук же должен идти.

— Понимаешь, балбес этакий, твой Левчук. Вчера на задании поддал, и командир его засадил в яму. На трое суток. Вот понимаешь... Но ты не беспокойся. Это пустяк...

— Ага, хороший пустяк! Там же полно полицаев. Да и немцы. Там же рота СД.

— Ерунда! Мы быстро. За одну ночь...

Он обнимает ее и выходит, она бросается следом, но раздаются звуки морзянки, и она возвращается к рации.

...Тем временем Левчук сидит на телогрейке в яме. Утро. С похмелья болит голова, он задумчив и мрачен. И вдруг сверху слышится:

— Привезли! Капитана привезли!

Левчук, не обращая внимания на крики часового, выскакивает из ямы и бежит по лесу к штабной землянке, у которой стоит повозка с убитым начальником штаба и рыдает Клава.

Вокруг, уронив головы, стоят партизаны. Останавливается и Левчук...» (У другой і трэцяй рэдакцыях гэты эпізод будзе ўстаўлены пазней.)

У другой рэдакцыі: «Запряженные парой, знакомые сани мчатся по лесной дороге. [...] Среди них выделяется рослая фигура начштаба Платонова, он красиво улыбается, обнажая белые зубы. Лошади идут шагом, Клава толкает Левчука.

— Кто это? Вон тот, в полушубке?

— Это... Это начальник штаба. Платонов, — говорит Левчук, нахмурившись.

Сани останавливаются, Клава ловко выскакивает на снег, и тут же к ней с протянутой рукой подходит Платонов.

— Ну, здравствуй, девушка. Как доехалось?

Он улыбается белозубой улыбкой, и Клава не в силах оторвать взгляда от его лица, тоже улыбается. Левчук хмурится и отходит в сторону.

Начштаба ведет радистку в землянку. Левчук забирает рацию и с убитым видом, не спеша, идет следом» (I, арк. 23–24; II, арк. 83; III, арк. 147).

Стар. 228. *Один остался...*

*— Плохо, значит, старался, — сказал Левчук.*

*[...]*

*— Куды весялей... А ты заслужаны, кажаш. Каб хоть Валодька... —* У першай рэдакцыі: «Один остался... И все что хотел человеком быть... у том причина.

...Погожая осень, крестьяне копают картошку. Под лесом работает Грибоед с семьей: женой и старухой-матерью, старший из детей, тринадцатилетний Володька, помогает отцу с лошадью. Младшие сидят на меже возле костерка.

Грибоед поворачивает коня в конце загона и вдруг слышит:

— Эй, человек!

Он оборачивается — кто-то в военной форме с оружием машет ему из кустов. Грибоед оставляет лошадь и идет к нему...

...В сумерках он везет из леса в свой дом тяжело раненого. Другой, раненый легче, идет рядом. Он говорит:

— На время, отец. Вот поправится, и мы пойдем. А пока надо помочь...

...На его кровати в избе лежит забинтованный человек, жена Грибоеда поит его молоком из кружки, рядом стоит другой.

— Ну во и добра, — говорит женщина. — Всего кружку выпил, значит, на поправку пойдешь.

— Спасибо, родная...

...Уже лежит снег, начало зимы. Грибоед колет дрова во дворе, вдруг прибегает Володька.

— Татачка, немцы!

— Запрагай каня! Хутка!

Грибоед бросается в избу к раненым, Володька выводит кобылку, запрягает в сани, Грибоед выносит из избы раненого, они выезжают со двора на дорогу к лесу, как вдруг немцы открывают огонь. Грибоед изо всей силы стегает лошадь, та срывается вскачь, и тогда рядом тихо ойкает Володька. Отец хватается за него, мальчонка оседает в санях, они прорываются в лес, но побледневший мальчишка без сознания. Разрывная пуля попала ему в живот...» (I, арк. 26–27; II, арк. 85–86; III, арк. 149–150).

Стар. 231. *...Землянка, маленькое окошко бросает слабый свет на самодельный, грубо сколоченный стол, за которым у рации сидит Клава. [...]*

*Останавливается и Левчук...* — У першай рэдакцыі замест гэтага фрагмента: «Левчук терпеливо сидит на скамейке под стеной гаража, солнце скрылось за крышами высоких домов. Двор живет своей привычной для него жизнью: возятся дети в песочнице, взрослые подметают дорожки, выбивают ковры. Старушки уже оставили свой пост у подъезда и скрылись в доме.

Наблюдая жизнь большого двора, Левчук думал свои, важные теперь для него думы.

Вот интересно — какой он? Веселый, общительный? У Платонова было такое живое лицо, приятно смотреть. И кто он? Возможно, инженер, специалист по машинам, может, сам даже строит машины, автомобили например. Это было бы здорово! Или врач — тоже неплохо. Может, даже лучше, если бы врач. А то теперь в медицине почти сплошь женщины, а что женщины? Только ругаться с ними... Может, он уже кандидат каких там наук. Было бы приятно. (Левчук сдержанно улыбается.) Хотя, конечно, главное, чтоб был человеком: приветливым в обращении, не пьяницей, чтоб не ругался. Хорошо еще, когда человек удачливый в жизни, но не за счет других. А то сколько их развелось, этих ловкачей, строящих свое благополучие за счет других! Умных с выгодой для себя.

Конечно, было бы очень здорово, если бы он оказался таким, каким хочется. Но... В жизни не часто так получается, как хочешь.

И все-таки надо надеяться.

Тем более, что столько с ним связано, словно с родным сыном, которого не дал бог. Три дочки. А что дочки — все у них от матери, а отца ничего. Ну да что фантазировать — скоро, наверно, все выяснится...» (I, арк. 30–31; II, арк. 89–90; III, арк. 155). У трэцяй рэдакцыі гэты фрагмент упісаны Быкавым у самым канцы сцэнарыя (арк. 186–187).

Стар. 237. — *Гэ, то ж той, што перабег да немцев. Кудрауцау той.*

